Хрыстос Нараджаецца!

Дарагія Браты й Сёстры Грэка–каталікі Беларусы.

Віншую Вас з новым выпускам "Уніі" й жадаю Вам новых посьпехаў на гэтай ніве. Няхай Вашае выданьне расьце ды ўбіраецца ў моц і сталасьць.

Пры гэтай нагодзе хачу Вам усім майму сэрцу дарагім і любым дзецям пажадаць багата ласкаў Божых дзеля набліжэньня сьвята Раства Хрыстовага ды Новага Году. Зычу Вам здароўя й Боскае апекі ад Дзіцятка Ісуса ды Ягонае Матачкі Марыі, зычу Вам росквіту ды ўсякіх іншых міласьцяў Божых. А як мы аддзячым Ісусу за ўсе Ягоныя дарункі? Адкажам на гэта словамі калядкі:

Ісусе милий, ми не багаті,
Золота дарів не можем дати,
Но дар цінніший несем від мира –
Це віра серця і любов щира.

Малюся за Вас усіх, і няхай багаславеньне Усемагутнага Бога Айца, Бога Сына й Бога Духу Сьвятога сыйдзе на Вас і застанецца з Вамі.

Володимир

Містоблюститель і Правлячий архієрей
Києво–Галицької митрополії Володимир Стернюк

Львоў

+ Володимир

**Дарагі чытачу!**

**Віншуем Цябе з найсьветлым сьвятам Раства Хрыстовага й Богаяўленьня. Хай любоўю Ягонаю жывіцца Тваё сэрца, і наймоцнаю падтрымкаю будзе ў жыцьці Табе вера: Хрыстос з намі!**

**Бэтлеемская зорка асьвятліла шлях да Збаўцы тром каралям – і ўсяму людзтву, і кожнаму з нас. Няхай Твой уласны шлях да Хрыста будзе роўны ды шчасны, і хай заўжды зьзяе Табе Твая сьвятая зорка.**

**Дапамажы Табе Бог!**

**Рэдакцыя**




# ЧАСОПІС ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СУМОЎЯ

Ойча наш,
каторы ёсьць у небе,
сьвяціся імя Тваё,
прыйдзі
валадарства Тваё,
будзь воля Твая,
як на небе так і на
зямлі. Хлеба нашага
штодзённага дай нам
сёньня. І адпусьці нам
грахі нашы, як і мы
адпушчаем вінаватым
нашым. І ня ўводзь нас
у спакусу, але збаў
нас ад злога.



Багародзіца
Дзева,
радуйся,
ласкі поўная Марыя,
Госпад з Табою.
Багаслаўлёная Ты
між жанчынаў,
і багаслаўлёны
плод улоньня
Твайго,
Ты бо нарадзіла
Спаса душ нашых.

Натальля АРСЕНЬНЕВА

# ВЯЧОРНАЮ ПАРОЮ

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
чыстым золатам густа залоціць рабіны,
– і здаецца паветра густым і зялёным,
бы вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах гатыцкіх касьцёлаў,
запаляючы шыбы дзіўнымі агнямі.
Зоры –
вочы малых засмучоных анёлаў –
мігацяць у хмурынах, парваных над намі.

Час таёмны, ня ноч, ані дзень, калі сьцені,
сьцені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
калі хочацца раптам устаць на калені
і стаяць так, бяз руху, маўкліва, бясконца . . .

Ў гэты час аджывае у думках старое,
ўспамінаюцца даўныя сэрца хваробы . . .
І так лёгка душою – вячорнай парою –
зразумець сьвету сумы, сумлевы й жалобы!

Хэлмна, 1924



Мал. А.Жыгоцкай

Казімер СВАЯК

## МЫСЬЛІ НА ВАЖНЕЙШЫЯ СЬВЯТЫ ГОДУ



# ТРЫ КАРАЛІ, АБО БОГАЯЎЛЕНЬНЕ

**(6 студзеня)**

1. Сяньняшняга дня абходзім тры здарэньні праз каторыя людзі пазналі ў Хрыстусе Бога самога. Тры мудрацы з Усходу аддаюць Яму паклон. Пры хросьце ў Ярдане Ян Хрысціцель і іншыя чулі голас Божы над Ерузалем: "Гэта мой Сын наймілейшы". А на вясельлі ў Кане ўчыніў Езус першы цуд і "уверылі ў Яго вучні". На памятку гэтых здарэньняў у касьцеле лацінскім пасьвячаюць кадзіла і крэйду, а ў славянскім – ваду ў рэках і ставах.

2. Афяравалі мудрацы маломy Езусу мірру, кадзіла і золата. Мірра – на знак Яго людзкой натуры, золата – на знак каралеўскае годнасьці, а кадзіла – як Богу самому: бо кадзіла азначае малітву. Прызналі гэтай афярай у Езусе Бога і чалавека ў вадной асобе. – Ня стыдайся, браце, выявіць веры сваей у божства Хрыстуса, ці то ў доме Божым, ці ў хаце. "Хто прызнае Мяне прад сьветам – вучыць Хрыстус – таго і Я прызнаю прад Айцом маім".

3. Цуд у Кане, гдзе Хрыстус на просьбу Марыі перамяніў ваду ў віно, служыць для нас навукай, як мае верыць у заступніцтва Марыі прад Богам. "Віна ня маюць" – шапнула Марыя да Сына, відзячы турботу маладых. Езус паслухаў маткі, бо ўжо прышла хвіліна паказаці сьвету, хто Ён. Даканаў цуду і паверылі Яму, што Ён пасланец Божы. А падчас хросту на Ярдане засьведчыў тое–самае Дух Сьвяты ў пастаці галубка, і голас зь неба Айца: "Гэта Сын мой – Яго слухайце". А ты, ці пільна слухаў голасу Божага ў сваім сумленьні? Ці ахвотна слухаў наказаў Хрыстовых у сьвятой Евангеліі? А мо' калі выступаў напроці веры нашай, ня знаючы яе і забываючы словы Езуса? "Гора крывадушным"! Пастанаві сьмела і ўсюды прызнаваць Езуса Богам праўдзівым.

**З малітаўніка "Голас душы"**
**(Вільня, 1926)**

ТРЫПУТНІК

# ВАЗЬМІ СВАЁ РАЗДАРОЖЖА



Той, хто дзярэцца празь нетры, і той, хто – гэй, падвязі! – шыбуе гасьцінцам, не разумеюць адно аднога, пакуль не перамяняцца мейсцамі. Але спадае раптам гэтаму пад ногі чароўны клубочак і бяжыць паперадзе – і расступаецца гушчар, і небарака, што навобмацак прадзіраўся праз бясконцыя пасткі, ужо ймчыць, бы падхоплены нейкаю сілаю, насустрач сваёй недасяжнай мэце. А шырокі гасьцінец неспадзеўкі закручваецца вузламі й губляецца ў нетрах заклятага места – і затуляецца далягляд, і вось ўжо зух, што ўпэўнена крочыў напяроймы свайму шчасьцю, няўцямна блукае між пачвараў нейчага трызьненьня.

. . . Я выбіраю шлях – ці шлях выбірае мяне? . . На тры бакі разьбегліся напрамкі. Кудою пойдзеш? – пытаецца раздарожжа, вартаўнік лёсу. Налева – каня згубіці, наўпрост – галавы не знасіці, направа – пры галаве й пры кароне быці, цэлы сьвет здабыці, падказвае ўсяведны камень. Вагаецца падарожны. Наступны крок мусіць пераважыць разам ўсе папярэднія, выявіць кірунак. Рух, які дагэтуль быў засяроджаны на сабе, тут канцэнтруецца ў свой вышэйшы кшталт – роздум – і засяроджваецца на мэце. Чаму я тут апынуўся? чаго шукаю? Адказ ёсьць пропускам у наступнасьць.

Кудою пойдзеш?

Падарожны робіць крок. Адольвае прыступку да свабоды.

. . . Але што засталося ў раздарожжы, якая таямніца праз гады не адпускае чалавека й прымушае ўрэшце вярнуцца назад? Цяпер ён бачыць адваротны бок мудрага каменя і нават не чытаючы ведае, што там напісана. Што на кані ўсё адно ніяк ня ўзьехаць на стромкія вяршыні. Што здрада – цана кароны. Што страчаная галава зноў прырастае ад кроплі жывой вады. *Якая карысьць чалавеку, калі ён здабудзе цэлы сьвет, а душы сваёй пашкодзіць?* – надпіс, які, падводзячы рысу, апяразвае камень, ды сьпераду толькі й было відаць: *...здабудзе цэлы сьвет . . .*

. . . А колішняе раздарожжа абярнулася скрыжаваньнем будучага й мінулага, зямлі й нябёсаў, і зрушыліся цені, і праступіў, лучачы ўсё, праменны Крыж.

Вазьмі сваё скрыжаваньне, ідзі за Мною . . .

Тут – апошняя прыступка да твае Свабоды. Да твае Існасьці.

Мал. Г. Лойкі

# АБ СЬВЯТАРСКІМ ПАКЛІКАНЬНІ

а. РОБЕРТ ЯЗЭП ТАМУШАНСКІ

# СЬВЯТАР АДЧЫНЯЕ НЕБА

*Госпадзе Ісусе Хрысьце, Ты прыйшоў на сьвет, каб ратаваць загінуўшых, а дзеля таго ўстанавіў сьвятарства ў Царкве, якая мае да канца вякоў прадоўжваць Тваю працу на зямлі. Дай нашаму многапакутнаму народу добрых сьвятароў і сьвятое духавенства, каб усе, якіх Ты выбраў ад вякоў на Сваю службу, пайшлі ахвотна за Тваім голасам! Узмацні іх у Сваей службе дый блаславі іхную працу. Амін.*

*"Дай нам, Госпадзе, убачыць Тваю ласку, даруй нам збаўленьне Твае!" (Пс. 84, 8).*

## ДАРАГІЯ МАЛАДЫЯ ПРЫЯЦЕЛІ !

*Сёньня зьвяртаюся да Вас, Беларуская Моладзь, якраз у 24-ю гадавіну сваіх сьвятарскіх сьвячэньняў, якія адбыліся ў нямецкім горадзе Кёнігштэйн 2 сьнежня 1966 году. Радзіўся я ў Нью-Ёрку як сын і ўнук эмігрантаў, якія пакінулі сваю Бацькаўшчыну на пачатку гэтага стагодзьдзя. Гавару і пішу па-беларуску – "простай" мовай, якою гаварыў зь дзедам у сваіх малодшых гадох. Пасьля мусіў вучыцца ў ангельскіх і францускіх школах у Канадзе, ды ў духоўнай сэмінарыі ў Нямеччыне, але беларускай мовы ня страціў і ня здрадзіў і яе не стыдаюся, але вельмі цаню і люблю, як прыгожы і дарагі дарунак Бацькаўшчыны.*

*Паслухайце маіх пару слоў!*

"Праходзячы недалёка мора Галілейскага, Ён (Ісус Хрыстос) убачыў двух братоў, Сымона, называнага Пятром і Андрэя, брата яго, закідаючых сеткі ў мора, бо яны былі рыбаловы, і кажа ім: Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў. І яны зараз-жа, пакінуўшы сеці, пайшлі за Ім" (Мацьвей 4, 18–20).

Чаму ў нас так мала нашых сьвятароў і наогул беларускага духавенства?

Сапраўды гэтая праблема (мы яе ўсюды адчуваем) не малая для нашага народу. Ці то Бог аб нас ў сваіх планах забыўся? Але так думаць немагчыма.

Трэба ведаць, што духоўнае прызваньне – гэта справа і Божая і людзкая. Госпад Бог выбірае і кліча людзей да Свае службы. Аднак сьвятары ня звальваюцца зь неба ўжо гатовыя. Бог выбірае са сьвету маладых людзей: запрошвае і кліча іх. але ці яны слухаюць і прыймаюць гэты голас?

Што нам кажа аб гэтым нашая гісторыя?

Мы бачым, што за часоў Вялікага Княства Літоўскага – часоў нашае незалежнасьці – жыцьцё Грэка-Каталіцкае Царквы пульсавала вельмі жыва: мы мелі даволі сваіх сьвятароў, біскупаў, манахаў і цэркваў. Але ворагі нашыя палітычныя з усіх бакоў сталі таксама ворагамі царкоўнымі: яны зналі, што Царква грае вялізарную ролю ў грамадзкім жыцьці. Нашы уніяцкія сьвятары прапаведвалі па-беларуску, дык з таго і людзі былі сьведамыя свайго паходжаньня. Але пасьля трагічнага скасаваньня нашае Грэка-Каталіцкае Царквы, пад націскам ворагаў беларуская царква лацінскага абраду фактычна ўтраціла свой характар: пакрысе станавілася польскай, а праваслаўная пацягнула ў бок расейскі. Так з двух бакоў наш народ траціў сваю нацыянальную сьвядомасьць найбольш зь віны духавенства.

Аж толькі ў пачатку гэтага стагодзьдзя з нацыянальным адраджэньнем пачынаецца адраджэньне царкоўнае, ды паўстала нэа-Уніяцкая Царква: нашы юнакі – сьвядомыя беларусы – вучацца на сьвятароў. Бог і цяпер, у 1990 годзе, кліча беларускую моладзь. Нам толькі трэба прымаць да сэрца Ягоны кліч.

Сам Ісус Хрыстос гаворыць аб "вялікім жніве", аб "сьпелай ніве", але – кажа – "мала жанцоў", ды "прасіце гаспадара, каб прыслаў больш працаўнікоў на сваю ніву".

Праўда, Бог зьяўляецца першаю прычынаю ўсяго, што дзеецца, але Бог не звальняе нас ад супрацоўніцтва: мы молімся і кажам: "Божа, памажы!" – але Бог адказвае: "Ты сам не ляжы!". І XX стагодзьдзе – гэта эпоха дзеяньня.

Адна з прычынаў браку нашага духавенства ёсьць матэрыялізм. Матэрыялізм – вораг ідэалізму: вучыць нас шукаць і працаваць і жыць не для вечнасьці, а дзеля гэтае зямлі, як жывёліна.

Другая прычына, што маладыя людзі адкідаюць голас Божы – гэта супраціў бацькоў. Вельмі цяжка зразумець, чаму веруючыя, а нават пабожныя бацькі, ставяць перашкоды і розныя цяжкасьці сваім дзецям, каб не пусьціць іх на Божую службу?! Відаць, што яны не разумеюць вартасьці духоўнага стану. Яны забываюцца, што іх дзеці – гэта Божая ўласнасьць: Бог мае большае права да вашага дзіцяці як вы самі. І вы, бацькі – толькі апякуны вашых дзяцей, а не паны й ня "богі".

Часамі бацькі фальшыва разумеюць, што дзіця, адданае Богу, стане нешчасьлівым. А нашае жыцьцё нам сьведчыць, што поўнага шчасьця на зямлі няма – такое магчымае толькі ў Бога. Сьвяты Аўгустын таксама перш шукаў на зямлі шчасьця, а пасьля пераканаўся і казаў: "Неспакойнае нашае сэрца, Божа, пакуль у Табе не супачыне". Дый у кожным стане ёсьць свае цяжкасьці – гэта ёсьць частка нашае спадчыны ад нашага бацькі Адама.

Бацькі адказваюць за духовае дабро дзяцей: калі не пазваляюць ім служыць Богу, дык сьцягнуць Божую кару на сябе й на дзяцей.

І яшчэ прычына, чаму ў нас мала нашых сьвятароў: моладзь не разумее, што ёсьць Хрыстовы сьвя-

тар.

Мудрыя і сьвятыя людзі мелі глыбокую павагу да сьвятарства. Сьв. Францішак з Азызу казаў: "Калі-б я спаткаў анёла і сьвятара, дык перш пакланіўся-б сьвятару". Бо і сапраўды сьвятару дадзеная большая ўлада як анёлу: сьвятару Ісус Хрыстос аддаў поўную сваю ўладу – адпускаць грахі, адпраўляць Найсьвятую Ахвяру і іншыя Тайны. Хрыстос казаў: "Як Мяне паслаў Айцец, так Я пасылаю вас . . ."

Значыць, для мільёнаў душ сьвятар адчыняе неба і звальняе ад путаў граху. Тады-ж праўдзіва кажуць і пішуць, што сьвятар ёсьць другі Хрыстос, бо ва ўсёй сваей службе заступае Самога Хрыста.

Цяпер трэба спытацца, хто можа стаць сьвятаром?

Першы знак – гэта добры намер або інтэнцыя, калі хто ясна пазнае Божую волю і хоча за ёю ісьці. Дый хто мае жаданьне служыць Богу – дзеля любові Бога, дзеля несьмяротных людзкіх душаў, ахвяравацца для Царквы і для Божага народу.

Другі знак: хто мае адпаведныя якасьці – фізычныя, маральныя і духовыя.

Трэці знак: прыняцьце царкоўнаю ўладаю.

Калі такія знакі ў каго ёсьць, дык ён мае Божае прызваньне – кліч, і таму чалавеку абавязку трэба Бога паслухаць і пайсьці ды ўступіць – ці то ў законны, ці ў духоўны стан. Трэба абсалютна здацца на Божую волю. Хто ж Бога не паслухае і адвернецца ад Божае службы, той ня будзе шчасьлівы на зямлі і адкажа на Божым Судзе.

Магчыма, што Бог кліча і Цябе, малады чытач, да службы ў Царкве для нашага народу. Ці ты маеш адвагу пайсьці Божым сьледам? Маліся, каб Бог даў Табе сьвятло розуму і сілу Волі!

Рым, 3 сьнежня 1990 году

**а. ЯЗАФАТ**

# ПОКЛІЧ ХРЫСТОВЫ

*Ня вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў і паставіў вас, каб ішлі й прыносілі плод, і каб плод ваш трываў . . .*

*(Ян 15, 16)*

Роздум пра сябе самога ў розных жыцьцёвых становішчах ды перасэнсаваньне сваіх дзеяў займаюць кожную маладую асобу, якая сьвядома ставіцца да жыцьця. Пры гэтым юнак ці дзяўчына неаднойчы задаюць сабе пытаньні: куды йсьці? якую прафесію абраць? якім чынам я буду найбольш карысны людзям і Богу? Зазвычай, напачатку цяжка знайсьці адказы на тыя пытаньні. Тады юнак пачынае ўпарты пошук "свайго мейсца" ў людзкім грамадзтве; з аднаго боку ён узважвае свае магчымасьці, здольнасьці, таленты й прыхільнасьці, з другога боку – ўсьведамляе сур'ёзнасьць і важлівасьць свайго выбару.

Але такі падыход выглядае надта спрошчаным, бо чалавек, як вядома, ёсьць Божым стварэньнем, якому Воляю Божай даўно ўжо вызначаны жыцьцевы шлях, мейсца ў грамадзтве й пэўная высокая мэта. Госпад Бог найлепш ведае чалавечую істоту, ейныя думкі, мроі, жаданьні ды здольнасьці. Сьвятое Божае Вока ймкліва пранікае ў глыбіню людзкое душы і ў сваёй бязьмернай любові кліча яе да чагось добрага, гуманнага, высокага й сьвятога. Але гэты Божы ўдзел у нашым выбары адбываецца так далікатна, пяшчотна й непрыкметна, што стварае ўражаньне поўнай самастойнасьці й незалежнасьці чалавечае асобы. Бог жадае, каб чалавек сваей вольнаю воляю выбраў Божую волю і адказаў Богу "ТАК". Але часам бывае цяжка зьдзейсьніць гэты крок, часам бывае нялёгка распазнаць, куды менавіта кліча мяне Госпад. Аднак такі стан ня можа працягвацца бясконца, і ўрэшце малады чалавек, пасьля доўгіх ды бясплённых пошукаў, знаходзіць правільны шлях, той, які прызначыў яму Бог. І тады юнак усьведамляе, што перад ім стаяла альтэрнатыва: абраць лягчэйшы, зручнейшы, выгаднейшы шлях у жыцьці, альбо шлях больш складаны й небясьпечны, але той, што Бог абраў для яго. І тады ў сэрцы юнака зьяўляецца ўпэўненасьць у спраўджаньні Божага заданьня, нараджаецца радасьць выкананьня Божае волі й гатоўнасьць ісьці чыніць усё, што загадае Ўсявышні.

Ісус Хрыстос у часе Свайго зямнога жыцьця абраў дванаццаць апосталаў, якіх зрабіў сьведкамі Сваіх справаў, Свае навукі, цудаў ды Свайго слаўнага Уваскрошаньня. Наш збаўца даў ім наказ дабравесьціць людзтву. Ён іх абраў між усяго гэбрайскага народу на тое, каб яны сталіся Ягонымі пасьлядоўнікамі й духоўна трансфармавалі сябе і ўвесь сьвет. Цяпер таксама Хрыстос кліча абраных Ім юнакоў ды дзяўчат да самаадданага служэньня Богу ў манаскім стане.

Юнак сьвядома й дабраахвотна прыракаецца Богу ў ЧЫСЬЦІНІ, ПАСЛУШЭНСТВЕ Й БЕДНАСЬЦІ і пад гэты ўчынак робіцца манахам, чалавекам, які ахвяруе Богу сваё цела ў агульным працэсе ўзнаўленьня людзкога роду, магчымасьць стварыць сям'ю; ахвяраваў сваю волю, дабраахвотна абраўшы паслушэнства волі Божай праз накірункі настаяльнікаў; ды ахвяраваў усю сваю ўласнасьць, якую меў ці мог яшчэ прыдбаць. Праз гэты герачіны ўчынак манах разрывае тры наймацнейшыя путы гэтага сьвету: путы цялеснай пажадлівасьці, ганарлівасьці й прагавітасьці. Праз гэтую велічную ахвяру манах стаецца падобным да бязжоннага й чыстага, паслухмянага да самае крыжовае сьмерці ды ўбогага Хрыста. Манах стаецца ахвяраю ўсеспаленьня на містычным ахвярніку Хрыстовым – ахвяраю ад сябе, ад свае сям'і, радзіны, ад вёскі ці места, ад усяго народу і ўсяго людзтва.

Пасьля вышэйсказанага нібыта выглядае, што манах ёсьць найнешчасьлівейшаю істотаю на зямлі, ягняткам, якое Бог выбраў Сабе ахвяраю, а людзі ахвотна ўскладаюць яго на ахвярнік за свае грахі ды злачынствы. У сапраўднасьці ж манах ёсьць найшчасьлівейшаю істотаю на зямлі! У той час як людзі турбуюцца сямейнымі справамі й дзецьмі, манах, сьвядома адмовіўшыся ад сямейнага жыцьця прычачэньнем чысьціні, у радасным спакою моліцца, вучыць і выхоўвае людзкія душы й праз тое стаецца духоўным бацькам для мноства духоўных дзяцей. Даруючы людзкія грахі ў сьвятой Таямніцы Споведзі, манах–сьвятар дорыць гэтым душам новае чыстае жыцьцё – жыцьцё Божага блаславеньня, ён гэтыя душы духоўна нараджае да новага жыцьця ў Хрысьце. Калі манах–сьвятар жывіць людзей сьвятым Целам Хрыстовым у Таямніцы Эўхарыстыі, ён падносіць гэтую нябёсную страву лыжачкаю – так, як маці гадуе

сваіх немаўлятак. Як духоўны бацька, манах-сьвятар блаславяае ды навучае сваіх духоўных дзяцей і так выконвае сваё найвышэйшае пакліканьне духоўнага бацькоўства ў Царкве Хрыстовай, і тым прыпадабняецца да Бога Айца.

Найвялікшую ахвяру складае манах прырачэньнем паслушэнства. Госпад Бог стварыў чалавека паводле вобразу свайго, стварыў яго вольным, і таму кожная чалавечая істота прагне быць вольнаю. Усякі ўціск ейнае свабоды ці то з боку людзей, ці то з боку дзяржавы ўспрымаецца негатыўна й балюча датыкае асобу. Таму стае незразумелым, чаму хтосьці дабраахвотна й сьвядома хоча зрабіцца рабом, слугою кагосьці. Манах стаецца слугою Бога, а Усявышні ёсьць вольным, ад нікога й нічога незалежным, бо ніхто ня можа абмежаваць Боскае Свабоды; і таму манаха можна назваць слугою Свабоды, слугою Божае Волі. Асабістая воля манаха ўліваецца ў сьвятую волю Бога, і дасканалае выкананьне гэтае волі поўніць манаха глыбокім сьвятым спакоем, радасьцю ды надзеяй (а нават упэўненасьцю), што ён атрымае нябёсную нагароду. Воля Божая ў жыцьці манаха праяўляецца ў беражлівым захаваньні правілаў манаскага ордэну, у выразных накірунках настаяльнікаў ды ў інтымным малітоўным дыялогу з Богам.

Трэцім прырачэньнем, што дае манах Богу, ёсьць прырачэньне эвангельскай беднасьці. Тым часам як людзі тлумяцца й штурхаюцца дзеля набытку грошай, багацьця ды камфорту, манах пагарджае гэтым багацьцем, трымаючы ў памяці словы Хрыста: "Як цяжка багатым увайсьці ў Царства Божае!" (Мк. 10, 23), і сьвядома за прыкладам Хрыстовым выбірае беднасьць. Прырокшыся беднасьці, манах адмаўляецца ад якое-кольвечы ўласнасьці й ня можа тымі рэчамі, што дало яму брацтва, распараджацца інакш як са згоды настаяльніка. Такі стан ёсьць магутным сродкам спрацьць усялякага ўзбагачэньня і ўнутрана разьнявольвае манаха, таму што ордэн (Закон) дае яму тры неабходныя дзеля жыцьця рэчы: адзеньне, жытло ды харч.

Такім чынам, з вышэй сказанага бачна, што манаскі стан сапраўды ёсьць найдасканальшым, найшчасьлівейшым, найсьвяцейшым і найспакайнейшым станам на зямлі.

Яшчэ між людзей пашырана памылковая думка, што ў манаскі стан уцякаюць ад сьвету асобы, пакрыўджаныя жыцьцём, расчараваныя ў шуканьні ідэалу ў чыста чалавечай любові, якія перажылі жыцьцёвую трагедыю й г.д. У сапраўднасьці ж гэта ня так. Маладыя людзі, уступаючы ў манаскі стан, нікім і нічым не прымушаныя, сьвядома выбіраюць менавіта яго, бо ведаюць, што ён ёсьць вышэйшым і дасканальшым ад шлюбу. Уступ у манаскі стан – гэта ня ўцёкі ад грамадзтва, а ўменьне своечасова засьцерагчыся ад ягоных заганаў. Манах актыўна працуе ў грамадзтве, між людзей, духоўна ўзвышаючы яго, маральна ачышчаючы й даючы яскравы прыклад высакародзтва, самаахвярнасьці й малітвы.

Манаскі стан ня ёсьць анахранізмам ці зьяваю, якая ня мае будучыні, але ёсьць сьвятым станам лепшых сыноў і дачок народу, якія глыбока зразумелі Хрыстовы покліч "ІДЗІ ЗА МНОЮ" ды адважна пайшлі за Хрыстом. Можна сказаць, што той народ, які нараджае з крыві хрысьціянскіх пакутнікаў маладых манахаў ды манахіняў, есьць сапраўды Божым народам, сьвядомым, вольным, вартым свайго слаўнага мінулага і ўпэўненым у сваёй будучыні.

а. Язафат ЗСБВ (Закону Сьвятога Базыля Вялікага),
выкладчык Вышэйшае Духоўнае Сэмінарыі аа. Базыльлянаў у Львове.

Львоў, 11 кастрычніка 1990 году

ЮРАСЬ ЗАКРЭЎСКІ

# АДГУКНІСЯ НА ПАКЛІКАНЬНЕ

Ідэя аб адраджэньні Грэка-Каталіцкае Царквы на Беларусі вяртаецца ў сьвядомасьць грамадзтва. Нягледзячы на доўгія гады атэізацыі, беларусы прагнуць духоўнасьці ды, падобна іншым эўрапэйскім народам, ідуць у сваіх патрэбах да Госпада нашага Ісуса Хрыста. У розных кутках Беларусі паўсталі суполкі прыхільнікаў дадзенай Госпадам нашым продкам Грэка-Каталіцкае (Уніяцкае) Царквы.

Гэтыя суполкі і могуць стацца сапраўднымі парафіяльнымі супольнасьцямі ды скласьці нашую Царкву, але толькі тады, калі сярод беларусаў знойдуцца тыя, хто вырашыць прысьвяціць сваё жыцьцё служэньню Госпаду ды пашырэньню ягонай праўды ў сваім народзе.

Той з нас, хто адгукнецца на сьвятарскае пакліканьне, мусіць авалодаць Хрыстовай навукай, каб пасьля на працягу ўсяго свайго жыцьця здабываць сакрамант сьвятарства, сьведчаньнем уласнага жыцьця заахвочваць людзей больш за ўсё на сьвеце любіць Бога, дзяліцца зь людзьмі дарамі атрыманага сьвятарства ды сяброўствам з Ісусам Хрыстом. Толькі той у поўнай ступені здолее зрэалізаваць сваё сьвятарскае пакліканьне, хто будзе ўвесь час адкрытым да людзей, да іхных жаданьняў, пытаньняў ды патрэбаў.

Прыняцьце сьвятарскага пакліканьня для Грэка-Каталіцкай (Уніяцкай) Царквы на Беларусі апрача ўсяго вымагае цьвёрдай адданасьці ды жаданьня несьці людзям слова Божае ды маліцца Богу ад свайго ўласнага нацыянальнага імя, якое нам даў Бог, ды ў натуральнай форме – праз сваю родную мову.

Доўгія гады на нашай Бацькаўшчыне ня было ўмоваў для існаваньня Беларускае Грэка-Каталіцкае (Уніяцкае) Царквы. Але нашыя выдатныя сьвятары як Уладыка Часлаў Сіповіч, а. Леў Гарошка, а. Язэп Гэрмановіч ды іншыя на чужыне маліліся перад Богам за лепшыя для нашае Царквы часы. Бог пачуў гэтыя малітвы ды таму сеньня нам дапамагае.

Сёньня ў аднаўленьні грэка-каталіцтва на Беларусі спрыяюць нам таксама нашыя аднаверцы на Украіне, Чэхаславаччыне ды ў іншых краінах, а таксама нашыя суродзічы за мяжой.

Дзякуючы гэткай падтрымцы, тыя беларусы, якія сёньня прымуць сьвятарскія пакліканьні, пройдуць курс навукі Хрыста ды атрымаюць сьвятарства ў грэка-каталіцкіх сэмінарыях Украіны, Чэхаславаччыны і Заходняй Эўропы, каб пасьля служыць Богу на Бацькаўшчыне.

Будзем маліцца за сьвятарскія пакліканьні з Беларускага народу!

Слава Ісусу!



Ігар БАБКОЎ

# УНІЯ, АЛЬБО ЗАЛАТЫ СОН КУЛЬТУРЫ

**Кожная ідэя мае сваю гісторыю.**

**Унія пачалася з палітыкі, працягвалася як лёс народу, знайшла сваё завершаньне ў мэтафізыцы.**

**Сёньня – Унія – залаты сон Культуры, мроі пра унівэрсалізм і надканфэсыйнасьць у небясьпечным суседзтве нецярпіма–канфэсыйных нацыяў.**

**Канфэсыя – інструмэнт улады. Унія – сродак волі?**

**Волі – дзеля чаго? Што будзе паяднана Уніяй, якім зьместам яна будзе жывіцца? Якія Храмы пабудуе?**

**Наважуся сьцьвердзіць, што Храм Уніі ўжо пабудаваны. Гэты Храм – Беларуская культура. Менавіта тут працягваўся і быў спраўджаны ейны лёс, тут яна заўсёды жыла, жыве і жыць будзе. Толькі тут яе немагчыма скасаваць, зьнішчыць, пазбавіць маёмасьці. Толькі тут яна рэалізавалася як мае быць у сапраўднасьці.**

**Скарына і Гусоўскі, Сапега і Сматрыцкі, Купала і Абдзіраловіч, Гэніюш і Арсеньнева – ейныя апосталы.**

**Мы – ейныя служкі.**

# КАТЭХІЗМ АЙЦА ПЁТРЫ

## ПАНЯЦЬЦЕ БОГА

Ёсьць Бог і ёсьць створаны Ім сьвет. Як Боская праява, сьвет неадлучны ад Бога. Глыбінным зьместам гэтае лучнасьці ёсьць таямніца жыцьця, сукрытая ў Боскай прыродзе. На пытаньне Майсея пра імя Божае Бог адказвае: "Я ёсьць Існы". Бог ёсьць вытокам жыцьця, ад якога жывіцца створаны Ім сьвет. Богу ўласьціва якасьць Абсалюту. Такім чынам, Ён адзіны ёсьць жывы Сам праз Сябе, тады як усялякае стварэньне ёсьць жывое праз Бога як першапрычыну жыцьця.

У Сьвятым Пісаньні Існы адкрываецца нам як Дух, Любоў і Слова.

Бог ёсьць Абсалютны Дух. Усё астатняе стасуецца зь Ім як болей ці меней матэрыяльнае. Аднак немагчыма ўявіць Бога толькі і адзіна ў якасьці Абсалютнага Духу, як немагчыма ўявіць Абсалютнае Нішто. Боскі Духовы Абсалют прасякнуты Любоўю. Любоў праяўляецца ў асаблівай пачуцьцёвай самасьвядомасьці – "Я люблю!" – і празе творчае дзеі ў напрамку ўлюбёнага. Слова, альбо Логас, ёсьць творчаю існасьцю Бога.

Стварэньне сьвету – гэта творчая дзея Боскае Любові. Вянцом стварэньня зьяўляецца чалавек. У ім сканцэнтраваная ўся Боская задума.

## ДАБРО І ЗЛО. ГРЭХАПАДЗЕНЬНЕ

Нейкі дзяцюк зьвярнуўся да Ісуса Хрыста словамі: "Настаўніку добры". Хрыстос адказаў: "Чаму клічаш Мяне добрым? Адзіны Бог добры".

Паняцьці дабра й зла ёсьць паняцьцямі створанага сьвету. Бог узрасьціў дрэва пазнаньня дабра й зла "зь зямлі". Створаны сьвет ня можа быць абсалютным дабром, таму што ня мае якасьці Абсалюту. Вынікова, ён зьмяшчае ў сабе элемэнт зла. Але ён гэтаксама ня можа быць і абсалютным злом. Дабро й зло ў створаным сьвеце адначасныя. Біблія сьведчыць нам, што яны "растуць" на адным дрэве. Дабро й зло ў створаным сьвеце адносныя, як адносна ўсё ў дачыненьні да Бога.

Неабходна адзначыць, што паняцьці дабра й зла зьвязваюцца з паняцьцем пазнаньня. Спосабам пазнаньня ёсьць параўнаўчы аналіз, які складаецца з супрацьстаўленьня і супастаўленьня пазнанага й непазнанага ў іхнай арыентацыі. Кожная праява непазьбежна ёсьць арыентаванаю альбо ў кірунку дабра, альбо ў кірунку зла. Дабром для чалавека зьяўляецца тое, што вядзе яго да жыцьця; злом – тое, што нясе яму сьмерць.

За мяжою ўяўленьня знаходзіцца нерэальнае. За мяжою чалавечага ўяўленьня знаходзіцца абсалютная сьмерць. Абсалютная сьмерць і, адпаведна, абсалютнае зло, нерэальныя ўжо з тае прычыны, што яны прызначаныя да разбурэньня, а не будаваньня, і таму іхным вынікам можа стацца толькі самазьнішчэньне.

Абсалютная сьмерць – гэта Абсалютнае Нішто. Калі гэтае суаднесьці з тым, што Бог ёсьць Абсалютам Духу, а значыць, таксама, нейкім чынам, Абсалютам Нішто, тады магчыма падыйсьці да высновы, што Бог

ёсьць прычынаю ўсіх прычынаў, у тым ліку й зла, якое нібыта зьяўляецца адною зь Ягоных сутнасьцяў. Тым болей, што Сам Ён сьведчыць: "Вось, Адам стаўся, як Адзін з Нас, ведаючы дабро й зло". Але калі б зло было ўласьціва Богу, не было б ні Самога Бога, ні, тым больш, створанага Ім сьвету. Таму што, у такім разе, Бог, зьяўляючыся Абсалютам, зьяўляўся б таксама й Абсалютам зла (сьмерці). Аднак жа створаны сьвет ёсьць жывы праз Бога.

Бог, наказаўшы чалавеку не каштаваць ад дрэва пазнаньня дабра й зла, папярэдзіў яго: "У той дзень,калі ты пакаштуеш ад яго, сьмерцю памрэш". Чалавек ёсьць лучным зьвяном паміж Богам і створаным сьветам. Зямля і ўсё, што на ёй, былі аддадзеныя ва ўладаньне чалавеку. Падобнае не валадарыць над падобным. Наказ не каштаваць ад дрэва пазнаньня дабра й зла быў наказам не далучацца да ніжэйшага за самога чалавека сьвету. Пазнаўшы дабро й зло, Адам і Ева пазналі дабро й зло створанага сьвету ў дачыненьні да ягонага Творцы.

Чалавек па грэхападзеньні сапраўды стаўся як "багі, што ведаюць дабро й зло". Але калі Бог ведае дабро ў Самым Сабе, а зло паза Сабою, дык чалавек ня толькі дабро, а й зло пазнаў у сабе самым, яны сталіся ягонаю сутнасьцю.

І монатэістычным і політэістычным рэлігіям уласьціва агульнае: вызнаньне адзінага зьверхнага Бога Творцы пры існаваньні шматлікіх іншых багоў. Найярчэй монатэізм праявіўся ў Юдаізму, аднак і ў Старым Запавеце неаднойчы сустракаецца выраз "Над Багамі Бог". Няма ніводнае паганьскае рэлігіі, якая б над мноствам сваіх багоў не вызнавала Адзінага, Невядомага прапродка астатніх.

Рэч ня ў тым, ці вызнаваць аднаго Бога, ці шмат багоў, а ў тым, каму пакланяцца.

У старажытных паганьскіх рэлігіях угрунтавалася шматбожжа з тае прычыны, што чалавек усё далей аддаляўся ад Найвышшага Бога праз сваю грахоўнасьць, – чым вышэйшы ідэал, тым цяжэй дасягнуць яго. Аддаляючыся ад Праўдзівага Бога, чалавек усё болей увагі скіроўваў да ніжэйшых багоў, да тых духоўных сутнасьцяў, што атачалі яго ў штодзённым жыцьці. Прыкметна тое, што багі старажытных Эллады, Эгіпту, Індыі, Бабілону і г.д. адрозьніваліся паміж сабою адно тым, чым паміж сабою адрозьніваліся элін, эгіпцянін, індыец, шумер. Сутна гэта адны й тыя ж самыя багі, якія набылі ў розных народаў размаітую нацыянальную афарбоўку. Усе яны падобныя ў галоўным – усе яны ўвасабляюць сілы прыроды. Тае прыроды, якую Бог адпачатку аддаў ва ўладаньне чалавеку.

Дзякуючы таму, што ўвесь бачны сьвет са стоенымі ў ім сіламі (багамі) скансэнтраваны ў чалавеку, чалавек мог узяць зьверхніцтва над гэтымі багамі. І сапраўды, няма ніводнага старажытнага народу, у чыіх міфах не згадвалася б пра падуладнасьць багоў магічным (жрэцкім) заклёнам. Выключэньнем ёсьць толькі Ізраіль. У той час як узаемаадносіны іншых народаў са сваімі багамі будаваліся паводле прынцыпу дачыненьняў служкі й гаспадара, узаеміны Ізраільскага народу з Богам будаваліся як узаеміны паміж Айцом і сынам. Біблія вылучаецца з усіх рэлігійных кнігаў тым, што толькі ў ёй адлюстравана сапраўды бацькоўскае стаўленьне Бога да Свайго народу.

Чалавек у грэхападзеньні дазволіў узяць над сабой валадарства пракаветнаму гаду–шатану, аднак Біблія падкрэсьлівае вышэйшасьць чалавека над гадам. Азначэньні шатана як "дзяньніцы", "князя сусьвету" і да



Мал. Г.Лойкі

т.п. паўстаюць ужо пасьля грэхападзеньня чалавека. Перад тым жа "пракаветны гад, называны шатан" малюецца даволі празаічна: "Гад быў найхітрэйшы з усіх зьвяроў польных, поўзаючых па зямлі, якіх стварыў Госпад Бог". Такім чынам, шатан быў адным з тых, каго Бог аддаў ва ўладу чалавеку. І менавіта чалавеку справядліва належалі эпітэты "дзяньніцы" і "князя сусьвету". Гэта пацьвярджаецца й тым, што Біблія аддае іх Ісусу Хрысту, Богу Праўдзіваму, Логасу, Які прыйшоў уратаваць "не анёлаў, але чалавека". Чалавека, як Свайго брата, суспадчыньніка Царства Нябёснага.

Адсюль сэнс спакушэньня гадам Адама й Евы бачыцца як захоп першародства. Як Якуб захапіў першародзства ў Ісава, так гад захапіў першародзтва ў чалавека. Аднак у першым выпадку спаборніцтва за першародзтва адбываецца паміж людзьмі, сынамі аднаго бацькі, а ў другім выпадку за першародзтва спаборнічае чалавек з падуладным яму гадам. Калі бы чалавек быў спакушаны вышэйшаю за сябе істотаю, не было б чалавечае віны прад Богам. Віну чалавека прад Богам абцяжарвае менавіта тое, што чалавек даўся ў спакусу яму ж падначаленаму стварэньню.

Аддаленьне ад Бога ёсьць аддаленьнем ад Духу, вынікам чаго можа быць адзіна матэрыялізацыя. Ступень матэрыялізацыі ёсьць ступеньню аддаленасьці. Чалавек паў з духоўнага сьвету ў фізычны. Аднак Богам быў пракляты й шатан. Тымсамым і ён быў прылучаны да матэрыяльнага сьвету. Але дзякуючы захопленаму "першародзтву", ягоная матэрыялізацыя адбылася больш тонка. Яна выявілася ня ў формах матэрыі, а ў сілах, што кіруюць гэтымі формамі, – у нябачных для чалавека сілах прыроды. Уся гісторыя чалавецтва сьведчыць пра тое, што чалавек усё болей адужваў гэтыя сілы, і па меры адужваньня ўсе болей слабнуў ягоны страх прад дэманічнымі сіламі прыроды – паганьскімі багамі.

Навука мае карані ў алхіміі, алхімія ў магі, а магія ва ўладзе чалавека над багамі, гэта значыць, у спасьціжэньні чалавекам прыроды і ейнага ладу. Бо дзіўна было б уявіць, каб людзі атрымалі магію ад багоў, якія самі зацікаўлены трымаць чалавека пад сваёю зьверхнасьцю. Такім чынам паганьскія багі–дэманы, хоць і захавалі свае індывідуальнае існаваньне, выразіліся ў чалавечым разуменьні ў электрычнасьць, радыяхвалі, атамную энэргію і г.д. Але гэта яшчэ не азначае, што яны страцілі свой уплыў на чалавека. Зьмяніліся формы гэтага ўплыву, але не самая сутнасьць. Зьмена формы пры захаваньні сутнасьці почасту зьяўляецца вельмі эфэктыўнаю. Але не трывае доўга.

Скачок у разьвіцьці навукі й тэхнікі менавіта ў хрысьціянскіх краінах тлумачыцца яшчэ й тым, што народы гэтых краінаў, пазнаўшы Праўдзівага Бога, пазналі й свае прызначэньне як сапраўдных уладароў сьвету, прыроды й стоеных у ёй багоў.

**Працяг будзе.**



***У рэдакцыі часопіса "Унія" вы можаце набыць выданьні:***

Божым шляхам: Малітаўнік для беларусаў. – Рым, 1946;

Кароткі катэхізм хрысьціянскай навукі. – Рым, 1988;

Хвалім Господа: Молитовник. – Клайпеда, 1990;

Катихизм християнської віри. – Выданьне міжнароднай каталіцкай арганізацыі "Царква ў Патрэбе", 1990. (на украінскай мове)





Ксэраксныя лёнданскія выданьні:
– Божая літургія між святымі Яна Залатавуснага;
– Беларускі царкоўны сьпеўнік;
– Беларускі духоўны сьпеўнік;

Віра батьків: Часопис українців Вселенської церкви. (на украінскай мове);

Благовісник. (Часопіс грэка–каталікоў у Чэхаславаччыне, на украінскай мове);



**а таксама абразкі, крыжыкі, медальлёны ды сьвечкі.**

# АРХІМАНДРЫТ ЛЕЎ ГАРОШКА
# (26.II.1911 – 28.VII.1977)



*У рэлігійнай гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя ёсьць шмат выдатных асобаў. Але сярод іх выразна ўзвышаюцца дзьве постаці – ксёндз Адам Станкевіч і архімандрыт Леў Гарошка. Менавіта гэтыя сьвятары найбольш актыўна і пленна ўдзельнічалі ў грамадзка–рэлігійным жыцьці, у арганізацыі беларускага друку; напісалі і выдалі вялікую колькасьць навуковых і публіцыстычных твораў. Ды калі першы зь іх, а.Адам Станкевіч, хоць і недастаткова, але ведамы сучаснаму беларускаму чытачу, то асоба а. архімандрыта Гарошкі і надалей застаецца для нас terra incognita*

*Тлумачыцца гэта проста. Айцец Леў Гарошка быў каталіцкім сьвятаром усходняга абраду, г.зн. уніятам. Справе адраджэньня грэка–каталіцкае царквы ён прысьвяціў цэлае сваё жыцьцё, асудзіўшы тым самым сябе на вечныя праклёны нашых непрыяцеляў.*

*Ён нарадзіўся на Міршчыне ў 1911 годзе, у сялянскай сямьі. Вучыўся ў Навагрудзкай беларускай гімназіі, шырока вядомай сваёю беларускасьцю. Менавіта ў пэрыяд навучаньня ў гімназіі канчаткова сфармаваліся рэлігійныя пагляды будучага сьвятара. Пазьней ён згадваў, што ўсе праваслаўныя навучэнцы не прызнавалі царскіх актаў скасаваньня Уніі ў 1839 годзе і лічылі сябе грэка–каталікамі.*

*У 1931 годзе ён пасьпяхова – лепшым з выпуску – здае матуральны экзамен, і, дваццацігадовым юнаком, пры дапамозе дырэктара гімназіі Янкі Цеханоўскага і дырэктара Беларускага музэю ў Вільні Антона Луцкевіча становіцца студэнтам Львоўскае Грэка–Каталіцкае Акадэміі. Дзеля свае працавітасьці і вялікіх здольнасьцяў здабывае любоў і павагу мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, рэктара Акадэміі д-ра Язэпа Сьліпага, прафэсара Міколы Чубатага. Як лепшы студэнт, пасьля заканчэньня Акадэміі, накіроўваецца ў Інсбрук для далейшых студыяў (1936–1937).*

*17 кастрычніка 1937 году з бласлаўленьня мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага і ў ягонай прысутнасьці а. Леў быў рукапаложаны ў сьвятары біскупам Мікітам Будкам у прыватнай капліцы мітрапаліта ў Львове.*

*Пачаўся самы складаны, цяжкі, і разам самы плённы пэрыяд ягонага жыцьця – час сьвятарскага служэньня свайму народу.*

*Ішлі змрочныя для Беларусі гады. Польскія ўлады імкнуліся зьнішчыць любыя праявы беларускага жыцьця "на крэсах," і а. Леў з-за сваіх беларускіх казаньняў шмат разоў пераводзіўся з парафіі на парафію аж пакуль у 1939 годзе ня быў выселены загадам навагрудзкага ваяводы з г.зв. прыгранічнае паласы. Але паўсюль, дзе яму даводзілася служыць, ён нёс свайму народу Слова Божае на роднай мове і сеяў зерне сьвятое Уніі, некалі гвалтам чужынцаў адабранае ў народа.*

*Не спыняе а. Леў сваёй працы і пасьля "узьяднаньня" Заходняе Беларусі з СССР.*

*Калі ўвесну 1940 году ва ўмовах савецкага падпольля а. Антон Неманцэвіч прызначаецца першым у XX ст. грэка–каталіцкім Экзархам Беларусі, а. Леў Гарошка становіцца ягоным намесьнікам. Пад час нямецкае акупацыі вымушаны працаваць на настаўніцкіх курсах, у школе, газэтных рэдакцыях ды інш. У канцы вайны, разам з хваляй эміграцыі апынаецца на Захадзе: спачатку ў Бэрліне, а пасьля ў Мюнхэне, дзе арганізоўвае беларускія душпастырства.*

*На эміграцыі пачынаецца самы дзейсны пэрыяд жыцьця айца Льва. Ён нястомна працуе сярод беларускіх эмігрантаў разам з будучым біскупам Чаславам Сіповічам. У 1946 годзе выдае ў Рыме малітаўнік "Божым шляхам". Ад 1947 году распачынае выданьне часопісу "Божым шляхам", да 1957 году зьяўляецца яго рэдактарам. У 1959 годзе ўступае ў Ордэн айцоў Марыянаў, праз год біскупам Ч.Сіповічам прызначаецца рэктарам Беларускае Каталіцкае Місыі ў Вялікабрытаніі. У 1962–69 гг. – ігумен законніцкага дому аа. Марыянаў у Лёндане. У 1965 годзе атрымоўвае годнасьць Архімандрыта. У 1970–77 гг. а. Леў кіруе беларускай сэкцыяй радыё Ватыкану і зьяўляецца рэктарам Беларускае Каталіцкае Місыі ў Францыі.*

*Уражвае ягоная працавітасьць. Уражвае велічыня яго самога і зробленага ім. За тыя 10 год, калі а. Леў рэдагаваў і фактычна адзін выдаваў часопіс "Божым шляхам", не было нумару без 3–4 ягоных артыкулаў, а нумароў жа выйшла 81!*

*Айцец Леў быў усебакова адораным і дасьведчаным чалавекам, паводле характарыстыкі біскупа Ч.Сіповіча – "беларускім энцыкляпэдыстам". З-пад ягонага пяра выйшлі дзесяткі кніжак і навуковых прац у самых розных галінах, і ўсюды, дзе а. архімандрыт прыкладаў свае намаганьні, ён дасягнуў вялікіх вынікаў і плёну. Ён выдаў філязофска–тэалягічную кніжку "Душа" (Парыж, 1948), прыродазнаўчую "Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных фактаў" (Парыж, 1948), гістарычныя кнігі "Сьв. Еўфрасіньня–Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі" (Парыж, 1950), "Беларусь у датах, лічбах, фактах" (Парыж, 1953), моваазнаўчую кнігу "Своеасаблівасьці беларускае мовы" (Парыж, 1951) і г.д. Напісаў вялікія гістарычныя працы "Пад знакам "рускае" і "польскае" веры" (1954/55), "Прычыны паланізацыі на Беларусі" (1955) і шмат, шмат іншых. Ён склаў грэцка–лацінска–царкоўнаславянска–беларускі слоўнік, слоўнік беларускіх прыказкаў ды прымавак, які абдымае звыш 20 тысячаў адзінак. Ён быў ці не адзіным беларускім хрысьціянскім празаікам, напісаўшы пад псэўданімам Анатоль Жменя дзесяткі апавяданьняў. Ён, урэшце, быў знаным бібліяфілам, сабраўшы вялікую ды каштоўную бібліятэку, якая становіць аснову Лёнданскае беларускае бібліятэкі імя Фр. Скарыны.*

*Прапануем увазе чытачоў артыкул "Неўміручая ідэя", які ёсьць добрым прыкладам гістарычнае публіцыстыкі а. Льва Гарошкі. Упершыню ён быў надрукаваны ў адным з нумароў часопісу "Божым шляхам" за 1947 год.*

*Сяржук Абламейка*

а. ЛЕЎ ГАРОШКА

# НЯЎМІРУЧАЯ ІДЭЯ

**(Гістарычны нарыс)**

Няма на сьвеце такое ідэі, супроць якое не падымаліся-б варожыя галасы. Таму нічога дзіўнага, што й ідэя рэлігійнае еднасьці (Уніі) на Беларусі мела і мае нямала ворагаў. У гэтым няма нічога дзіўнага. Дзіўна аднак тое, што галоўным аргумэнтам супроць Уніі было і ёсьць цьверджаньне, быццам сама ідэя Уніі зьяўляецца чужою выдумкаю, створанаю выключна на шкоду для Беларусі і Беларусаў.

Варта толькі раскрыць старонкі нашае гісторыі каб увачавідкі пераканацца, што падобныя думкі могуць выказваць толькі або зусім ня знаючыя нашае гісторыі, або выключна із злое волі.

Не ўвайходзячы ў дыскусыю, падамо жменю фактаў з гісторыі нашае Царквы, хай яны гавораць і сьведчаць самі аб сабе.

Хрысьціянства пачало ўводзіцца на Беларусі яшчэ за доўга да падзелу Цэркваў, які афіцыяльна стаўся толькі ў 1054 г. Значыць, хоць і прыйшло да нас хрысьціянства ўва ўсходнім абрадзе, але яшчэ тады, калі Хрыстова Царква была непадзеленаю, таму з самага пачатку хрысьціянізацыі Беларусь прызнавала над сабою зьверхнасьць Рымскага Архірэя і яго імя ўспаміналася на багаслужэньнях, падобна, як гэта было і ў самай Візантыі. Пасьля падзелу Цэркваў, Беларусь яшчэ доўгі час захоўвае послух Рымскаму Архірэю, бо сам разьдзел адбыўся якраз у той час, калі Кіяўская мітраполія, а зь ёю разам і Беларусь разарвала зносіны з Візантыяю, самавольна выбраўшы Іларыёна на кіяўскага мітрапаліта (1051–1055). Таму, самазразумела, што акт адлучэньня Візантыйскае Царквы не адносіўся да нас. Папская дэлегацыя, выкляўшы ў Канстантынопалі патрыярха Міхаіла Керулярыя, адразу выехала ў Кіяў і тут была прынятая з усімі почасьцямі, а з Кіява вярнулася ў Рым.

Аб лучнасьці з Рымам у далейшым сьведчаць нязьбітыя факты ў 1089 г. па загаду папы сьв. Урбана II на Беларусі пачалі сьвяткаваць сьвята перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая (9-V), якога грэкі ня маюць да сёньня. У 1147 нашы епіскапы, разам з украінскімі, абіраюць сабе бяз згоды Візантыі мітрапалітам Кіеўскім Кліма, і самі багаслаўляюць яго мошчамі сьв. Клімэнта папы. У гэтым самым часе часта прыходзяць папскія паслы ў Кіяў і наадварот. У 1180 г. смаленскі князь Раман Расьціслaвіч меў у сваіх школах настаўнікаў "грэкаў і лацінян". Сьв. Кірыла Тураўскі († 1182 г.) у сваіх казаньнях пахвальна адзываецца аб намесьніку ап. Пятра; літаратурная крытыка яму прыпісвае нават такі твор, як "Пахавальнае слова Клімэнту Рымскаму". У 1186 г. полацкі князь Валадзімір дае дазвол каталіцкаму місыянэру Мэйнгарду для хрысьціянізацыі Латышоў. Полацкія князі наагул былі заўсёды так прыхільна настроены да Рыму і Захаду, што расейскія гісторыкі іх празвалі "западническими", а тураўскія былі гэткімі яшчэ ў большай ступені і нават заводзілі лацінскі абрад, за што яшчэ сам Уладзімір мусіў ваяваць супроць роднага сына Сьвятаполка, Тураўскага князя, што меў пры сабе лацінская біскупа Рэйнбэрга.

Яшчэ на пачатку XIII в. на Беларусі адчуваецца моцны зьвязок з Рымам: сьв. Мэркуры Смаленскі († 1238) быў "родам рымлянін", сьв. Параскева, ігум. Полацкая, перад пагрозаю татараў едзе ў Рым і там паміраe († 1239) у аўрэолі сьвятасьці. Гэты час агулам азначаецца прыгожым уздымам рэлігійнага жыцьця і даў нашай Царкве найбольшы лік сьвятых.

Варожыя адносіны да Рыму стараліся прышчэпліваць мітрапаліты – грэкі яшчэ ў XII ст., але іх дзейнасьць разьбівалася аб той няпрыхільны настрой усходніх славян да грэкаў, аб якім аднагодна сьведчаць усе гісторыкі. Старaньні грэцкіх мітрапалітаў увясьці ў багаслужэньні грэцкую мову на места царкоўна–славянскай, так і асталося бясплоднымі; відаць, што вучні і пасьлядоўнікі сьвятых братоў Кірыла і Мэтода мелі большы ўплыў і лепшы грунт, чым мітрапаліты – грэкі.

Ад палавіны XIII веку палітычныя абставіны зьмяняюцца так паважна, што прыхільнасьць да Рыму і Захаду ў нас зьнікаюць; на іх мейсца зьяўляецца варожы настрой. Галоўнаю прычынаю гэтага была крывавая дзейнасьць крыжакоў, і ад гэтага часу зьяўляецца на Беларусі Праваслаўе з адценкам няпрыхільнасьці да Рыму, але адначасна пачынае слабець і духовае жыцьцё; і Праваслаўная Царква ня мае належнага ўплыву на суседнюю Жмудзь. Палякі выкарысталі гэта потым на шкоду для самае-ж Праваслаўнае Царквы.

З часам палажэньне пагоршываецца яшчэ ў тым сэнсе, што праваслаўны цэнтр пераносіцца зусім з Кіява ў Маскву і стае паслушнаю прыладаю маскоўскае палітыкі. Спроба В. Князя Гэдыміна ў 1317 г. унезалежніцца ад Масквы доўга ня ўтрымалася. Калі прыходзіць да ўлады Вітаўт, ён панаўляе спробу Гэдыміна; у 1414 г. склікае Сабор праваслаўных ерархаў у Навагрудку, на якім выбіраюць незалежнага мітрапаліта Грыгора Цамблака. Каб яшчэ больш унезалежніцца ад Масквы і вызваліцца ад нападаў крыжакоў, ён пераконвае Цамблака прыняць рэлігійную Унію.

Спачатку Цамблак быў няпрыхільна настроены да Рыму, але ўканцы згадзіўся і з велічнай дэлегацыяй у 1418 г. спазьніўшыся на Сабор у Канстанцы, едзе ўпрост у Рым і там, у лютым 1418 г. на рукі папы Мартына  складае прысягу ад імя ўсяе Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства і служыць урачыстую Літургію ў базыліцы сьв. Пятра. На жаль, хутка пасьля свайго павароту, ён уміраe ў 1419 г., а Вітаўт, заняты іншымі справамі, ня мае калі давясьці да канца распачатае аб'яднаньне. Аднак сама ідэя рэлігійнае Уніі пачынае пранікаць у што раз шырэйшыя кругі і здабываць сабе ўсюды прыхіль-

---

**Артыкул друкуецца з захаваньнем мовы аўтара.**

нікаў. За сваю прыхільнасьць да Уніі смаленскі мітр. Гарасім мусіў заплаціць жыцьцём; Сьвідрыгайла ў 1435 г. спаліў яго на кастры ў Віцебску каб здабыць прыхільнасьць у праваслаўных магнатаў, пры помачы якіх стараўся дайсьці да ўлады.

Некалькі гадоў пасьля гэтае падзеі справа Уніі зноў стала актуальнаю. На сусьветным Саборы ў Флёрэнцыі дайходзіць да ўрачыстага падпісаньня 6-У11-1439 г. акту паяднаньня між Зах. і Усходняю Царквою. Побач Візантыйскага патрыярха мітр. Ізыдар Кіяўскі і ўсяе Русі падпісвае акт Уніі і ў імені беларускіх праваслаўных епархіяў. Пасьля гэтага мітр. Ізыдар едзе ў Кіяў, дзе яго спатыкаюць з усімі належнымі почасьцямі. Адтуль едзе на Беларусь; тут такжа яго ўрачыста прызнаюць сваім мітрапалітам. У Менску і Смаленску рыхтуюць яму самае шчырае прыняцьце. За тое, калі мітр. Ізыдар зьявіўся ў Маскве, Маскоўскі князь Васіль Васільевіч замыкае яго ў цюрму, адкуль выратаваўся ўцёкамі.

Але і гэтым разам Уніі ня доўга было суджана праіснаваць на Беларусі. Шмат на гэта зложылася прычынаў, але найважнейшымі былі тыя, што сам В. Князь Казімір быў у нядобрых адносінах з Рымам і выступаў супроць Флёрэнтыйскага Сабору, а найгоршым грабаром Уніі стаўся Віленскі рыма–кат. біскуп – паляк Матэй. Хоць і падтрымоўваў Унію Смаленскі князь Юры Лонгвіновіч, аднак спаткаўшы з усіх бакоў такіх магутных ворагаў на самым пачатку свайго існаваньня, яна не змагла доўга ўстояцца.

ХУ ст. ува ўсёй Зах. Эўропе азначаецца ўпадкам рэлігійнага жыцьця. На Беларусі палажэньне ня было лепшым. На грунце рэлігійнага заняпаду ў Зах. Эўропе ў ХУІ в. паўстае цэлая плойма розных рэфарматарскіх сэктаў. У абліччы гэтае рэфармацыі народжваецца каталіцкая рэакцыя. Трыдэнскі Сабор прыймае цэлы рад важных пастановаў і на рэлігійнай арэне вынyраюць нядаўна зарганізаваныя айцы езуіты. Але ў гэтым-жа часе Праваслаўная Царква на Беларусі ў сваім упадку пасіупае што раз далей. Праваслаўная шляхта ў 1585 г. заявіла афіцыяльна свайму мітрапаліту, што Царква знайходзіцца ў такіх злыбядах, у якіх ня была ніколі дагэтуль, ані хіба ў прышласьці ня будзе. Ня мейсца тут апісваць гэты заняпад, але досыць, будзе сказаць, што калі на Беларусі зьявіліся рэфарматарскія сэкты, дык амаль усе беларускія магнаты і шляхта кінуліся туды гурмам, пакідаючы сваё "Праваславіе". У самай толькі Наваградчыне на 600 выдатных беларускіх родаў, толькі 12 аставалася праваслаўнымі. Тут вось і мае свой пачатак тая страшэнная хваля рэнэгацтва, якую так мастацка апісаў Сматрыцкі ў сваім "Трэносе".

Да барацьбы з сэктанствам у каталіцкай Царкве становяцца езуіты, яны-ж зьяўляюцца з гэтаю мэтаю на Беларусь у 1569 г. Нажаль да нас прыходзяць езуіты палякі і сваю дзейнасьць сьцісла вяжуць з палянізацыяю. Праца езуітаў хутка прыносіць намечаныя вынікі. Сэкты, якіх тады нарахоўвалася на Беларусі больш 70, зьнікаюць адна за другою; адбываюцца масавыя пераходы ў рыма–каталіцызм, але адначасна пачынаецца палянізацыя. Тыя-ж, што астаюцца ў Праваславіі, шукаючы помачы звонку, пачынаюць аглядацца на Маскву, якая ўжо ад 1589 г. мае свайго патрыярха і набірае вялікае агрэсыўнае сілы. Гэта ўсё пасьля акту Люблінскае уніі адбываецца так хутка, што Беларусы раптам становяцца перад вельмі пагражаючымі фактамі. Трэба было неадкладна шукаць ратунку перад хваляю дэнацыяналізацыі і з Захаду і з Усходу. Тады вось зноў ажывае ідэя Уніі, якая-б захавала ўсходні абрад, але прыняла догмы заходняе Царквы і гэткім парадкам пазбавіла-б Маскву і Варшаву іх прэтэнзіяў да Беларусі.

Князь Кастусь Астрожскі адзін з першых застанаўляецца над гэтаю справаю і 21-У1-1593 г. піша ліст да Берасьцейскага епіскапа Іпація Пацея, намячаючы галоўныя пункты Уніі. Беларускія і ўкраінскія епіскапы з свайго боку робяць частыя зьезды і нарады, шукаючы ратунку і канчаткова доходзяць да пераканаНьня, што няма іншага выхаду: каб ратаваць народ, трэба пайсьці сьледам Флёрэнтыйскае Уніі.

Польскія рэлігійныя і сьвецкія дзеячы спачатку вельмі спрыяюча адносіліся да Уніі, пэўна-ж не бяз тайнае думкі выкарыстаць яе для сваіх камбінацыяў. У выніку ўсяго гэтага ў рэшце рэшт пасьля доўгіх перагавораў, нарадаў, стараньняў і тайных ды яўных зьездаў у 1596 г. дайходзіць да ўрачыстага падпісаньня і прагалошаньня рэлігійнае Уніі на Саборы ў Берасьці.

Супроцьунійныя дзеячы за гэты час такжа не бязьдзейнічалі. Між імі знайшоўся, абражаны ў сваёй магнацкай амбіцыі князь К.Астрожскі; знайшліся розныя тайныя і яўныя высланьнікі маскоўскага цара і патрыярха. Нават сам Візантыйскі патрыярх зьявіўся на Беларусі. Назьбіралася столькі "апякуноў", што аж кроў палілася зь Беларускага Народу. Найбольш не па душы была Унія для маскоўскіх цароў, бо яны ўжо ад 1505 г. называлі сябе: "Вялікія, Малыя і Белыя Русі самадзержавец".

Кульмінацыйным пунктам барацьбы за Унію, была сьмерць сьв. Ёзафата Полацкага 12-Х1-1623 г. Запраўды цудоўнае дзеяньне крыві сьвятых мучанікаў – навяртаюцца на Унію, нават ягоныя забойцы. Нават сам Навум Воўк, што найбольш дзейна падрыхтоўваў забойства, ня толькі стае уніятам, хоць і асуджаны на сьмерць, але і самую сьмерць з сьвятою пакораю прыймае, як пакуту за свой злачын. Самы заўзяты паборнік Уніі і аўтар "Трэнасу" мітр. Мялеці Сматрыцкі, хоць і знайходзіўся ў міжчасе далёка за межамі Беларусі, так-жа ў 1627 г. прыймае сьв. Унію і стае яе гарачым і адважным абаронцам. Ня будзем займацца падрабязна гэнымі падзеямі, сьцьвердзім толькі факт, што рэлігійная Унія, як форма славян.–кат. рэлігіі стае агульным беларускім веравызнаваньнем, адначасна беларускія рэлігійныя дзеячы робяць паважныя стараньні сумесна з украінцамі ўтварыць свой Патрыярхат для Вял. Княства.

Пабачыўшы гэты факт, палякі перакінуліся з становішча прыхільнікаў у лягэр паборнікаў Уніі. Дайшло да таго, што кароль Жыгімонт Ш не дазволіў у Рэчыпаспалітай абвесьціць дэкрэту Апостальскага Пасаду з дня 7-Х1-1624 г., якім забаранялася вернікам і духавенству ўсходняга абраду перайходзіць у лацінскі. Аднак беларускія біскупы не зьняверваюцца ў змаганьні за абарону сваіх правоў і дабра Беларускага Народу.

Што да самае рэлігійнае барацьбы ў гэтым часе, дык трэба з усёю аб'ектыўнасьцю сьцьвердзіць, што яна хоць была запраўды, але ніколі ня была падобная да таго абразу, які малююць расейскія гісторыкі, стараючыся апраўдаць тую жахлівую барацьбу, якая адбывалася падчас касаваньня Уніі, бо-ж у Рэчыпаспалітай ня было ані Сібіру, ані таго жорсткага адміністрацыйнага расейскага сыстэму, якім карыстаўся цар.

Да таго нельга забывацца, што зразу пасьля абвешчаньня Уніі, яна на Беларусі прынялася бяз ніякае засьцярогі і толькі пад уплывам замежных інтрыгаў распачалося змаганьне некалькі год пасьля, калі быў зроблены наступ супроць маральна ўпаўшых элемэнтаў.

Калі яшчэ і цяпер у некаторых кругох можна стрэнуць закід, быццам Унія мела быць мастом для палянізацыі, дык на гэта трэба сказаць, што хіба толькі папугай, які выхаваўся ў Маскве, можа паўтараць гэткія закіды. Беларускі Народ цэлых 243 г. йшоў гэтым "мастом" і да ніякае палянізацыі не дайшоў, а за тое Смаленшчына, якая па гэным "мосьце" ня ступала, зрусыфікавалася да страшэннай ступені. Не ад рэчы будзе замеціць, што Праваслаўная Царква ў Польшчы за 20 гадоў свайго аўтакефальнага існаваньня запраўды спалянізавалася ў некалькі разоў больш, чым Унія за 243 г.

Пакуль Унія была на Беларусі, дык ані палянізацыя, ані русыфікацыя ня былі страшнымі, бо беларускае рэлігійнае жыцьцё ў унійным веравызнаваньні захоўвала беларускі характар. Не зважаючы на вышэйшую спалянізаваную часткова ерархію, на вёсках усюды казаньні гаварыліся па-беларуску, пяяліся беларускія рэлігійныя песьні. Нават у часе т. зв. поўнага заняпаду ў каталіцкіх школах на Беларусі для дробных разьвесяляючых прадстаўленьняў–інтэрмэдыяў ужывалася народная беларуская мова, хоць у польскіх школах гэта і выкарыстоўвалі для нядобрых мэтаў.

Таму якраз і скасавалі Унію, што яна была галоўнаю перашкодаю для русыфікацыі Беларусі. Адразу пасьля скасаваньня ў тым-жа 1839 г. забараняецца гаварыць казаньні па-беларуску. Хоць доўга і хітра падрыхтоўвалі гэную касату Уніі, хоць, пакінуты сваімі грамадзкімі вярхамі, народ знаходзіўся ў бяспрыкладна жудаснай паншчыне, аднак доўга аставаўся верны сваёй бацькаўскай рэлігіі і не забудзецца аб ёй ніколі.

Калі беларускі адраджэнскі рух на пачатку гэтага стагодзьдзя пачаў разрастацца ўшыр і ўглыб, паступова займаючы ўсе галіны беларускага жыцьця, ня мог ён абмінуць беларускае рэлігійнае нівы. У 1908 г. браты Луцкевічы навязваюць кантакт з украінскім грэка–каталіцкім мітр. Шэптыцкім і паўстае першы праект уваскрасеньня беларускае Уніі; знайшліся і беларускія сьвятары ахвотнікі да гэтай працы, але расейскі–царскі ўрад да гэтага не дапусьціў. Аднак стараньні не асталіся без адгалоску.

Падчас стараньняў тварэньня беларускіх ваенных фармацыяў у 1917 г. даволі частымі былі пытаньні нават з вуснаў магілеўскіх сялянаў, якія ўважаліся за найбольшых русафілаў: "А якая будзе вера ў нашай дзяржаве, бо-ж старая беларуская вера была Вунія"?

Пасьля першае сусьветнае вайны, як толькі зьявілася магчымасьць аднавіць старавятныя беларускія традыцыі, дык вернікі самі пачалі старацца аб утварэньні беларускіх уніяцкіх парахвіяў. Таму аднак, што ўся каталіцкая ерархія была ў польскіх руках, дык ізноў, як калісь, пачаліся дзеяцца розныя надужыцьці. Пакуль польская адміністрацыя і біскупы не занялі выразна варожае паставы супроць Уніі, удалося сарганізаваць на абшары Беларусі 30 прыходаў, далейшыя просьбы і стараньні, у ліку каля сотні асталіся дакумантамі часу. Варожае становішча палякаў да Уніі змусіла Сьвяцейшага Айца Пія XI сказаць ім моцнае слова: "Той не каталік, хто вораг Уніі", польская адміністрацыя на гэта не зьвяртала ўвагі. Рэпрэсыі супроць беларусаў–уніятаў з году ў год узрасталі: адміністратыўныя кары, рэпрэсыі, забароны, высяленьні, інтрыгі чаргаваліся адны за другімі. А ў 1938 г. дайшло да таго што па загаду палескага ваяводы Костэк–Бэрнацкага запячаталі уніяцкую царкву ў Угрынічах разам з Найсьвяцейшымі Дарамі – арыштавалі самога Хрыста.

Падчас першае бальшавіцкае акупацыі тайна быў утвораны для Беларусі Грэка–Каталіцкі (Уніяцкі) Экзархат, але падчас нямецкае акупацыі Экзарх а. Неманцэвіч, з прычыны злосных інтрыгаў, загінуў трагічна з рук нямецкіх С.Д. ў сьнежні 1942 г.

Аднак супроць усіх варожых сілаў беларуская ўнійная ідэя жыве і ніякім ворагам ня здушыць яе.

Сілен княжа караць,  
Галаву можаш зьняць,  
Ня скуеш толькі дум ланцугамі.

кажа Я.Купала. Тымбольш ніхто ня скуе беларускае рэлігійнае справы, бо гэта справа Божая.

Хоць і кароценькі гэты нарыс, але выстарчае на тое, каб убачыць якія глыбокія карані мае рэлігійная Унія на Беларусі і каму яна карысная, а каму шкодная.

Бог свае волі нікому не накідае сіламоц, тымбольш ня думаюць гэтага рабіць вернікі-уніяты, але з адною просьбаю зьвяртаюцца да сваіх братоў–праваслаўных: Не абзывайце Унію, а разам з ёю і нас, рознымі няпрыстойнымі мянюшкамі і абразьлівымі словамі, бо якая з гэтага карысьць і каму? Лепш выказацца пазытыўнаю працаю на карысьць Беларускага Народу, хаця ў гэткай ступені, як уніяцкія сьвятары, бо час і абставіны сёньня гэтага вымагаюць ад усіх больш, як калі.



# ШЛЯХІ

## ЗЬНІЧ

*Пасьля вызваленьня ад бальшавіцкай акупацыі, адраджэньне Беларусі, Расіі і Ўкраіны магчыма толькі ў якасьці сувэрэнных Праваслаўных Дзяржаў.*

*Мільярд Хрысьціянскіх народаў існуе ў 5-мільярдным нехрысьціянскім сьвеце. Для стратэгічнай роўнавагі ў самой Хрысьціянскай сябрыне, – дзе існуе Каталіцкі Захад, Пратэстанцкая Поўнач і Праваслаўны Ўсход, – трэба моцнае адраджэньне аслабленага мафіёзным атэізмам Праваслаўя.*

*На Беларусі трэба памятаць пра сумныя вынікі "шляху Ягайлы", які магутную старабеларускую Праваслаўную Дзяржаву сьвятых Еўфрасіньні Полацкай, Кірыла Тураўскага, вялікіх князёў Альгерда, Вітаўта, самога Ягайлы – калі ён яшчэ быў Праваслаўным – прывёў у 1697–1699 гадох да забароны беларускае Мовы і забароны Праваслаўным займаць пасады ў самаўрадах.*

*Сёньня пра "шлях Ягайлы" нагадваюць спаленьні Праваслаўных Храмаў у Польшчы . . .*

*Шлях сёнешняй Беларусі – **наперад**: ад Ягайлы – да Альгерда! . .*

*Наогул, рух гісторыі зараз надзвычай паскораны і скіраваны наперад: да Хрыста – праз сьціслае прарастаньне ў "зваротным кірунку" – праз эпохі, што пралеглі паміж Першым Хрыстовым Прышэсьцем і Другім – Слаўным, – блізкасьць якога абвяшчае труба Архангела – зорка–Палын. Блізкае завяршэньне дэманскай гісторыі гвалтоўнага гераізму вымагае надзвычай далікатных, чуйных адносін да правоў і карэннай нацыі нашага Краю – Беларускай, – і карэннай канфэсіі – Праваслаўнай, – пры безумоўнай павазе правоў нацыянальных і канфэсійных меншасьцяў – Каталікоў, Пратэстантаў, Уніятаў і іншых вернікаў (а таксама немафіёзных нявернікаў). Тады Беларусь стане сапраўды Хрысьціянскай, Беларускай, Сумоўнай.*

*І якімі-б сьцяжынамі Шляху Божага (Заходнімі, Паўночнымі, Усходнімі ці Паўднёвымі) ня йшлі-б мы наперад да Хрыста – мы ўсе непазьбежна сыдземся ў трагічнай кропачцы 1054 году – і пераадолеем яе – у Адзінай, Сьвятой, Сумоўнай і Апостальскай . . .*

*. . . так што шлях для Беларусі – адзіны: наперад, ад Ягайлы – да Альгерда, сьв. Еўфрасіньні й Кірылы, Кірыла й Мяфодзія, Андрэя Першазванага і – урэшце і на пачатку пачаткаў – да Хрыста . . .*

*"Зьліцьцё канфэсій" – як і бальшавіцкае "зьліцьцё нацый" – фантазія марная, сьмешная, трагічна–блюзьнерская. І нацыі, і канфэсіі павінны гучаць сумоўна – як шматгалосны сьпеў.*

*І ўкрыжаваная на Чарнобыльскім Крыжы Беларусь паклікана Госпадам даць сапраўды Хрысьціянскі прыклад – Сумоўя, Памяркоўнасьці, Лагоды. Як сказаў пратэстанцкі беларускі сьвятар Эрнст Сабіла, крывавую, гвалтоўную гісторыю трэба ведаць, але – каб любоўю пакрыць успамін, каб не паўтараць жахлівых асатаненьняў пакаленьняў мінулых . . .*

### СУКВЕЦЬЦЕ СКОНУ – ПАД ЗОРКАЙ–ПАЛЫН

*Хрыста Другое –*
*Слаўнае – Прышэсьце*
*сустрэць раптоўна*
*прыйдзецца Нявесьце.*
*Яна – адна! . .*
*але саперніц шмат*
*за гэты шчасьця вечнага пасад –*
*зямных, раўнівых,*
*часам – аканна! . .*
*Адна – бязгрэшная? . . –*
*то Кветка Ватыкана,*
*што прарасла, нястрымна і упарта,*
*ва ўсе Краі – грунтоўна і*
*бяз жартаў . . .*
*Другая – Кветка Поўначы*
*суровай,*
*бунтоўная і дзеямі, і словам . . .*
*Тры Кветкі Ўсходу –*
*Кветкі Праваслаўныя –*
*Вялікія . . .*
*і Белыя . . .*
*і Малыя . . .*
*. . . ў цяню вялікіх –*
*ціхі сьпеў Цім'янаў.*
*Краіны сіняй*
*рана на Івана . . .*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Жаніх раптоўна*
*зьявіцца у сьвеце . . .*
*што выбярэ Ён*
*з гэтага*
*Суквецьця? . .*

### ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ СУМОЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

*Трохгалосную Аўтакефалію*
*Ты ўпляла у вянок вякоў:*
*Праваслаўным дала ў кампанію*
*Пратэстантаў, Каталікоў . . .*
*Атуліла іх Мовай лагоднаю –*
*Мовай зьнічак і бліскавіц –*
*і нянавісьць – не–вера–годную*
*для Хрысьціянства ! –*
*зрынула ніц.*

*Хай гучыць і*
*чацьвёрты голас –*
*што Мікола ў свой час*
*пабурыў[x].*
*Ды ня будзьма і мы, як Мікола:*
*не пабурым*
*першыя тры.*

*[x] Унія, скасаваная Мікалаям 1 у 1839 г.*

# ДА СУМОЎЯ

*Данута БІЧЭЛЬ–ЗАГНЕТАВА*

*Каталіцкі Касьцёл далучае нас да эўрапэйскае духоўнае культуры, дае нам прыклады дасканаласьці асобы, напаўняючы жыцьцёвыя лёсы глыбокім сэнсам, гэта значыць, Богам.*

*Тое, як склаўся лёс Ягайлы, засталося ў далёкай мінуласьці. Ягайла дзеля палітыкі зьмяніў веру. Думаю, што ў старажытнасьці і католікі і праваслаўныя і язычнікі былі зусім іншымі. Нам трэба думаць пра сучаснасьць, пра будучыню. Беларускай інтэлігэнцыі трэба зьблізіцца са сваім закінутым Богам, зьнішчаным камуністамі народам. Трэба ісьці ў касьцёл і кленчыць побач з бабулямі на каленях. І вельмі асьцярожна ўводзіць у каталіцкі касьцёл родную мову. Так і паступае наш біскуп Тадэвуш Кандрусэвіч. Сёньня трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на сэмінарыю ў Гародні. Сьвядомым беларускім хлопцам, равесьнікам клерыкаў, трэба пазнаёміцца зь імі, пасябраваць.*

*Самы час стаць побач са сваімі вернікамі на калені перад Богам і, як пад час імшы у касьцёле, перказаць сабе ўзаемна Знак Спакою: "Спакой вам усім!"*

*x x x*

*Людзі, узьнятыя сілаю звыш,*
*сыйдуцца разам з расстайных дарог*
*кожны ў свой дол, кожны ў свой бок,*
*пад адзінокі, але адзін Крыж.*

*Прагнем на момант сагрэцца душой*
*тут, між няпраўды і цеснаты,*
*між дзьвюх сьвятыняў, між двух крыжоў,*
*між двух агнёў – то народы–браты.*

*Сябра адзіны, зацята маўчыш.*
*Так, памаўчы, патрывай, пагаруй.*
*Стогне пад крыжам уся Беларусь . . .*
*Але ці злучыць яе трэці Крыж?*



Вольга КУРТАНІЧ



## МАРЫЯ, БУДЗЬ...

*Марыя, будзь . . .*
*За сьценамі – цямрэча . . .*
*Дайсьці да брамы не пасьпееш ты.*
*Спачатку – жар.*
*А холад – ён затым,*
*Як вусны перахопіць рот старэчы.*

*Марыя, будзь . . .*
*Няма на сьвеце вечным*
*Ні праўды шчырай,*
*ні сьвятой ілжы.*
*І ўсмоктваюцца белыя вужы*
*У твае напаўразгорнутыя плечы.*

*Марыя, будзь . . .*
*Самотны жвір пустэчы*
*На ўсходзе сонца стане залаты.*
*Няма дарогі ў той спакой.*
*І ты*
*Не прычакаеш сьветлае сустрэчы.*

*Марыя, будзь . . .*
*Ты па законе нечым*
*Пакутніца, ахвяра і судзьдзя.*
*І малако атручана ў грудзях,*
*Ты ім напоіш сына ў гэты вечар.*

*Марыя, будзь*
*той, хто і б'е, і лечыць.*

*х х х*

*Дайсьці да брамы не пасьпела ты . . .*
*Спакою жвір не знойдзены астыў . . .*
*І сёньня па табе пастаўлю сьвечку,*
*Укленчу і пакаюся затым.*

*1990*

# ТАЯМНІЦЫ УЖАНЦУ

ЯН ЛУКІЯНОВІЧ

 кожнай зь Вялікіх містычных Кнігаў, што на працягу тысячагодзьдзяў чытала чалавецтва – ці то Кніга Душы, ці Кніга Жыцьця, Кніга Прыроды ці Кніга Кнігаў, – знаходзім сымбаль Ружы. І паўсюль галоўным ягоным значэньнем ёсьць адно й тое ж – дасканаласьць.

Пачаўшы адухаўляць і надзяляць чалавечымі сэнсамі сьвет вакол сябе, людзі сутыкнуліся з гэтым дзіўным фэномэнам прыроды, цудам красы, у-сабе-прыгажосьцю, яўленай рэчыўна, відочна. Зьдзіўляе і нават палохае аднадушша, зь якім народы й цывілізацыі, эпохі й культуры прымаюць гэтую кветку ў свой духоўны космас, спрабуюць зразумець і ”прачытаць” яе, разгадаць таямніцу яе дасканаласьці. Самое нараджэньне ружы аднесена ў пракаветныя, дагістарычныя часы, часы багоў і гэрояў. Старажытныя грэкі зьвязвалі ружу з Эрасам, касьмічнай сілай, што брала ўдзел у стварэньні сьвету. І ў той жа час яна расьце на Елісейскіх палёх, у краіне памерлых. У Індыі Брахма, што спрачаўся пра кветкі зь Вішну, даў перавагу лотасу, але як пабачыў ружу, адразу прызнаў яе першасьць. Гэбрайская кабала лічыць ружу вобразам Адзінага. Мусульмане ўсклалі на яе карону Каралевы кветак.

Хрысьціянства, зь яго ўнівэрсальнай формулай адносінаў боскага і чалавечага – ”незлучальна й непадзельна” – зьвязала нябёсную дасканаласьць ружы з гісторыяй жыцьця, сьмерці і ўваскрошаньня Ісуса Хрыста, богачалавека. У Хрысьціянстве ружа набыла асаблівую сымбалічную гамму: міласэрнасьць, міласьць, уседараваньне, боская любоў, пакутніцтва, перамога. Зялёная лістота ружы нагадвае пра жыцьцё й радасьць, колкая сьцябліна зь дзідамі – пра пакуты й сьмерць Хрыста, дзівосны квет – пра Ягонае слаўнае ўваскрошаньне. У сярэднявечным мастацтве ружа сымбалізуе нябёснае шчасьце. Да вяршыні яе ўсьведамленьня ў Хрысьціянскай паэзіі ўздымаецца аўтар ”Боскае камэдыі”. У вышэйшай сфэры неба паэт бачыць велізарную палымяную ружу, пялёсткамі якое – душы праўдзівых, а найвышэйшым зь іх – Маці Божая.

Хрысьціянства ўвяло крыху халаднаватую і адцягненую дасканаласьць ружы ў чалавечае вымярэньне. Ці, больш дакладна, у богачалавечае. Хрыстос сыходзіць у сьвет і сьвет яго не прымае. Хрыстос памірае на крыжы ”рабскай” сьмерцю, сярод пляўкоў і праклёнаў. У сваёй душы ён змагаецца са страхам сьмерці й тугою адзіноты. Колькія ў такіх абставінах зьненавідзелі б сьвет і людзей . . . Хрыстос прыйшоў зь любоўю і ратуе любоўю. Гэта і ёсьць Ружа Хрысьціянства.

Істотнаю рысаю ўсялякага сымбалю ёсьць лучнасьць. Сымбаль ня проста рэч дляназіраньня, асалоды. Сымбаль лучыць, злучае, дорыць цеплыню таямніцы, дазваляе быць саўдзельнікам яе. Такім чынам мы падыходзім да Ружанцу.

Ружанец (ці на лаціне *Rosarium* – ружовы сад) – пэўны спосаб малітвы, пасьлядоўнасьць якое адлічваецца нібы па пялёстках ружы, што разгортваюцца ярусамі па пяці ў кожным. Малітва гэтая спалучана з роздумам пра падзеі (таемствы) з жыцьця Ісуса і Дзевы Марыі, што ўтвараюць тры пяцярыцы – радасную, пакутную й слаўную.
Самы спосаб малітвы прыйшоў з хрысьціянскага Ўсходу, дзе прыкладна ў Ш стагодзьдзі быў пераняты ад больш старажытных рэлігіяў. Кожная асобная малітва (паклон) адзначалася вузельчыкам на вяроўцы. Зваўся ён па-грэцку *kombologion*, а па-славянску – вяровіца, верваца. Праз пяць стагодзьдзяў ён зьявіўся й на Захадзе, тут ён атрымаў лацінскую назву *Paternoster* (ад першых словаў малітвы ”Ойча наш . . .”). Сучасная форма Ружанцу ўсталявалася ў 1470-х гадох праз дамініканца Алана дэ Рупа і яго пасьлядоўніка. У 1520 годзе яна была асьвячоная папам Ільвом X і названая Ружанцам Багаслаўёнае Дзевы Марыі.



Ружанец – "Вянок ружаў", – нібы з найлепшых кветак, сплецены з найдаражэйшых малітваў: "Ойча наш . . .", якое навучаў Сам Госпад Ісус, і "Багародзіца Дзева . . .", як віталі Марыю Божы пасланец арханкел Гаўрыіл і сьвятая Лізавета, маці Яна Хрысьціцеля.

Ружанцам завецца таксама й нізка замацаваных асаблівым чынам пацеркаў (драўляных, касьцяных, бурштынавых і інш.), дзе кожнаю пацеркаю адзначаецца асобная малітва. Адсюль выраз "казаць пацеры", сінанімічны выразу "прамаўляць ружанец".

Як жа прамаўляем ружанец?

Перадусім, узяўшы ў рукі ружанцовыя пацеркі, жагнаемся й кажам:

*"У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін."*

*"Цару Нябёсны, Пацяшыцелю, Духу праўды, усюдыпрысутны і ўсёнапаўняючы, скарбніца дабра і жыцьцядацелю, прайдзі і гаспадаруй у нас, і ачысьці нас ад усякага благоцьця, ды ўратуй, дабротны, душы нашыя."*

На першай пацерцы чытаем Сымбаль веры:

*"Веру ў адзінага Бога Айца . . ."*

Далей зьмяшчаюцца адна за адной тры пацеркі. На іх молімся так:

На першай кажам:

*"Слава Айцу, што нас сатварыў, і цяпер, і заўсёды, і на векі вечныя. Амін."*

*"Багародзіца Дзева радуйся . . ."*

На другой кажам:

*"Слава Сыну, што нас адкупіў, і цяпер, і заўсёды, і на векі вечныя. Амін."*

*"Багародзіца Дзева . . ."*

На трэцяй кажам:

*"Слава Сьвятому Духу, што нас прасьвятліў, і цяпер, і заўсёды, і на векі вечныя. Амін."*

*"Багародзіца Дзева . . ."*

Далей ідзе адна асобная пацерка, й на ёй кажам:

*"Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу, і цяпер, і заўсёды, і на векі вечныя. Амін."*

*"Ойча наш, каторы ёсьць у небе . . ."*

Цяпер пачынаецца дзесятак пацеркаў, альбо так званая "дзесяціца" ружанцу. На кожнай пацерцы чытаем Багародзіца Дзева і ў гэтым часе сэрцам згадваем адпаведную таямніцу (падзею) з жыцьця Ісуса й Марыі. Усіх таямніцаў ёсьць пятнаццаць, таму поўны ружанец мае пятнаццаць дзесяткаў "Багародзіца Дзева . . ." Паміж тымі дзесяткамі заўсёды зьмяшчаецца адна асобная пацерка, на якой чытаем Слава Айцу і Ойча наш.

Гэты вянок малітваў, ды разважаньняў сьвятары яшчэ называюць Малым Эвангельлем, лесьвіцаю ў неба.

Пацеркі, якімі звычайна карыстаемся, ёсьць трэцяю часткай поўнага ружанцу. Яны ахопліваюць адну пяцярыну таемстваў і маюць толькі пяць дзесяткаў "Багародзіца Дзева . . .", падзеленых асобнаю пацеркай, на якой чытаем Слава Айцу і Ойча наш.

Падчас сваіх зьяваў у Фаціме Маці Божая прасіла, каб пасьля кожнае дзесяціны дадаваць яшчэ такую малітву:

*"О, мой Ісусе, даруй нам грахі нашыя, збаў нас ад пякельнага полымя, вазьмі да Выраю ўсе душы ды пасьпяшайся з асабліваю дапамогай тым, хто таго найбольш прагне."*



Напачатку раім дапамагаць сабе тымі кароценькімі роздумамі аб таямніцах ружанцовых, якія падаем ніжэй. Пасьля, прызвычаіўшыся да прамаўленьня ружанцу, можна будзе абыходзіцца бязь іх.

## ТАЯМНІЦЫ РУЖАНЦУ

сіх таямніцаў – пятнаццаць. Іх падзяляюць на радасныя, пакутныя ды слаўныя.

### Радасныя таямніцы

Думаем пра іх у панядзелак, аўторак і чацьвер. Вось яны:

1. Зьвеставаньне Прачыстае Дзевы Марыі
2. Адведзіны Лізаветы Маці Божаю
3. Нараджэньне Хрыстова
4. Стрэчаньне Госпада
5. Знаходжаньне Ісуса ў Храме

### Пакутныя таямніцы

Думаем пра іх у сераду й пятніцу. Вось яны:

1. Хрыстос сярод аліваў
2. Бічаваньне Ісуса
3. Вянчаньне Хрыста цернямі
4. Крыжовы шлях
5. Укрыжаваньне Госпада

### Слаўныя таямніцы

Думаем пра іх у суботу й нядзелю. Вось яны:

1. Уваскрошаньне Хрыстова
2. Узьнясеньне Ісуса
3. Спасланьне сьв. Духа
4. Унебаўзяцьце Прачыстае Дзевы Марыі
5. Каранаваньне ў небе Прачыстае Дзевы Марыі



## РАДАСНЫЯ ТАЯМНІЦЫ

### 1.Зьвеставаньне

*У шосты ж месяц пасланы быў Анёл Гаўрыіл ад Бога ў места Галілейскае,называнае Назарэт, да дзевы, заручанай з мужам імем Язэп, з дому Давідавага; імя ж дзевы – Марыя. Анёл, увайшоўшы да яе, прамовіў: радуйся, дабрадатная! Госпад з табою; багаслаўлена ты між жанок."* (Лука 1, 26–28).

Зь любові да нас вырашае Госпад Бог паслаць Свайго Адзінароднага Сына, каб ўратаваць сьвет. Сын гэты мусіць стацца чалавекам, прыйсьці ў сьвет як дзіцё. На Ягоную Маці выбірае Бог дзеву з Назарэта, Марыю. Яшчэ з хвіліны Яе зачацьця збавіў Яе ад першароднага грэху. Але, шануючы свабоду волі, пасылае анёла спытаці Марыю, ці пагодзіцца Яна стаць Маці Ягонага Сына.

*"Вось я – слуга Госпада; няхай станецца мне па слову твайму"*, – гаворыць тады Марыя.

Будзьма ўдзячнымі Богу за выбар Марыі на Маці Свайго Сына. Будзьма ўдзячнымі Марыі за яе згоду. Будзьма заўсёды пагаджацца з Божаю воляй ды выконваць яе праз ўсё жыцьцё!

### П. Адведзіны Лізаветы Маці Божаю

*Устаўшы ж Марыя ў тыя дні пасьпяшалася ў горную краіну, у места Юдзіна. І ўвайшла ў дом Захарыі і прывітала Лізавету."* (Лука 1, 39–40).

Прачыстая Дзева Марыя даведалася ад анёла, што яе цётка Лізавета неўзабаве народзіць. Таму сьпяшаецца да яе, каб дапамагчы і падтрымаць.

А Лізавета, што чакала зьяўленьня на сьвет сына свайго Яна Хрысьціцеля, *"напоўнілася Духам Сьвятым і загаласіла моцным голасам і сказала: багаславёна Тым між жанок, і багаславёны плод улоньня Твайго. І адкуль гэтае мне, што Маці Госпада майго прыйшла да мяне?"* (Лука 1, 42–43).

Марыя ў адказ на гэта гаворыць велічныя словы ўдзячнасьці ды пакоры:

*"Велічае душа мая Госпада, і ўзрадаваўся дух мой у Богу Збаўцу маім"* (Лука 1, 46, 47).

Будзьма раздумваць з увагаю ды любоўю над гэтаю падзеяю. Ад Божае Маці навучымся заўсёды быць гатовымі дапамагаць бліжнім. І не чакаць ад гэтага пахвалы людзей, але думаць пра Бога!

### Ш. Нараджэньне Хрыстова

*Калі ж яны былі там, надыйшоў час нарадзіць ей; і ўрадзіла Сына Свайго Першага, і палажыла яго ў жолаб, бо ня было ім мейсца ў заезьдзе."* (Лука П, 6, 7).

Сын Божы прыйшоў убога ў сьвет. Першымі, хто пакланіліся яму, былі ўбогія пастухі, якім анел паведаміў пра нараджэньне Сына Божага:

*"І сталася, як адышлі ад іх Анелы на неба, пастухі сказалі адзін аднаму: пойдзем у Бэтлеем і паглядзім, што там здарылася, што абвясціў нам Госпад. І пасьпешна выйшлі і знайшлі Марыю і Язэпа і Дзіцятка, ляжучы ў жолабе."* (Лука П, 15, 16).

Па прыкладзе пастухоў заўседы сьпяшаемся да Ісуса. Але ня будзьма забываць, што каля Яго Марыя ды Язэп. Таму адчуем у сэрцы шчырую любоў да Марыі і Язэпа, а яны навучаць нас любіць Хрыста.

### ІУ. Стрэчаньне Госпада

*І як прайшло восем дзен, калі трэба было абрэзаць Дзіцятка, далі Яму імя Ісус, названае анелам да зачацьця Яго ў чэраве. А калі скончыліся дні ачышчэньня іх па законе Майсеяваму, прынесьлі Яго ў Ерузалім, каб прадставіць перад Госпадам."* (Лука П. 21, 22).

Прачыстая Дзева Марыя і сьв. Язэп аддана выконваюць усе запаветы закону Майсеявага. Хочуць нас навучыць, што і ад нас чакае пастушэнства Нябёсны Айцец наш.

У Ерусалімскай сьвятарні старэнькі Сымон, што чакаў Марыі, бярэ Дзіцятка Ісуса на рукі, сьпявае Богу сьпеў падзякі. А пасьля прадвяшчае Маці Божай пакуты, што давядзецца ей перанесьці з-за Божага Сына:

*"Вось, ляжыць Гэты на ўпадак і паўстаньне многіх на Ізраелю і на знак, якому працівіцца будуць. і табе самай меч пранікне ў душу – каб выявіліся памышленьні многіх сэрцаў."* (Лука П. 34, 35).

Мячом гэтым быў боль, што зьнесла Маці Божая, калі стаяла пад крыжам на Галгофе. Будзем удзячнымі Марыі за яе гатоўнасьць цярпеці з Хрыстом за нас.

### У. Знаходжаньне Ісуса ў Храме

Верныя Закону Марыя ды Язэп штогод хадзілі да Ерусаліму на сьвята Пасхі. Узялі з сабою й Ісуса, калі Ён меў дванаццаць гадоў. А Ісус незаўважна застаўся ў Ерусаліме. Марыя ды Язэп тры дні шукалі Яго:

*"Праз тры дні знайшлі Яго ў царкве, седзячы сярод настаўнікаў, слухаючы ды пытаючы ў іх."* (Лука П, 46).

*"І Маці Яго сказала Яму: Дзіця! што Ты зрабіў з намі? Вось бацька Твой і я зь вялікаю тугою шукалі Цябе.*

*Ён сказаў ім: на што было вам шукаць Мяне? ці ж вы ня ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму? Але яны не зразумелі сказаных ім словаў."* (Лука, П, 48–50).

У нашым жыцьці таксама не аднойчы сустрэнемся з дзіўнымі шляхамі Боскага Прадбачаньня. Але што б не здаралася з намі, будзем памятаць, што заўсёды ратуе нас Божая Любоў.

## ПАКУТНЫЯ ТАЯМНІЦЫ

### І. Хрыстос сярод аліваў

Пасьля Таемнае Вячэры, дзе пастанавіў Прасьвятую Эўхарыстыю, Хрыстос ўзяў з Сабою Сваіх вучняў і пайшоў на Аліўную гару памаліцца. А тром апосталам – Пятру, Якубу ды Яну наказаў: *"Маліцеся, каб не ўвайсьці ў спакусу".*

*І сам адыйшоў ад іх, як кінуць камень, і, укленчыўшы, маліўся, кажучы: Айцец, калі Твая воля, пранясі чару гэтую міма Мяне, ды не Мая воля, але Твая няхай станецца.*

*Зьявіўся ж Яму анёл зь неба, умацоўваючы Яго,і ў барацьбе сьмяротнай пільней маліўся, і быў пот Яго, як кроплі крыві, падаючы на зямлю."* (Лука 22, 40–44).

Хрыстос сярод аліваў меў перад вачыма Свае пакуты. Яго людзкая натура жахнулася на хвіліну, але Сын Божы пагадзіўся з воляю Айца Нябёснага.

Хрыстос зьвяртае нашую ўвагу на неабходнасьць малітвы, каб умацавацца ў добрасьці ды ня ўпасьці ў спакусу.

### ІІ. Бічаваньне Ісуса

Жаўнеры зьдзерлі зь Яго вопратку, прывязалі да слупа ды бязьлітасна білі . . .

Няхай вобраз катаванага Хрыста заўжды стаіць перад вачыма, а перадусім тады, калі спакусы нячыстыя прадзіраюцца да нас у душы!

Просім Прачыстую Дзеву, каб была нашай ахоўцай у хвіліны спакусаў. Яна, Беззаганная, дапаможа зьберагчы душу чыстаю!

### ІІІ. Вянчаньне Хрыста цернямі

Але на гэтым бічаваньне ня скончылася.

*"І жаўнеры завялі Яго ў панадворак, што завецца Прэторыя і склікалі ўсю роту. І адзелі Яго ў пурпур, і, сплеўшы зь церняў вянок, усклалі на яго. І пачалі вітаць Яго: радуйся, Цар Юдэйскі! І білі Яго па галаве трысьцінай, і плявалі на Яго і, становячыся на калені, пакланяліся Яму.* (Марк, 15, 16–19).

Вось такія мукі трывае Сын Божы! Так, Ён – Цар. Але як багата людзей сьмяецца зь Ягонага царства. Бо Ягонае царства не ад гэтага сьвету. Яно – Царства Нябёснае.

Дзеля Хрыстовага царства будзьма гатовы трываці так, як трываў Сам Хрыстос!

### ІУ. Крыжовы шлях

*І, калі насьмяяліся зь Яго, зьнялі зь Яго чырвоны плашч і адзелі Яго ў адзежы Ягоныя, і павялі Яго на раскрыжаваньне."* (Мацей, 27, 31).

Сына Божага вядуць на расьпяцце. На крыжы мусіць Ён выкупіць людзкі род зь няволі грэху.

Крыж цісьне Хрыста цяжарам сваім, а яшчэ больш цісьне Яго цяжар нашых грахоў. Ён падае. Каты бьюць, папіхаюць! На дарозе сустракае Ісус Сваю Маці. Які боль!

Пабожная Вераніка хусьцінаю абцерла аблічча Ісуса і адбітак Ягоны застаўся назаўжды.

Ішлі за ім праведныя кабеты й плакалі.

Ісус жа, азірнуўшыся на іх, прамовіў:

*"Дочкі Ерусалімскія! ня плачце па Мне, але плачце па сабе і па дзецях вашых."* (Лука 23, 28).

Калі каты пабачылі, што Ісус так зьняможаны, што не данясе крыжа, прымусілі Сымона Кірынейскага, які вяртаўся з поля, каб дапамог.

Уявіўшы Ісуса, які нясе крыж, ня будзем наракаць на свае пакуты. Таксама ня будзем множыць сваімі грахамі пакуты Хрыста.

### У. Укрыжаваньне Госпада

*І, нясучы крыж Свой, Ён выйшаў на ўрочышча чарапоў, што па-жыдоўску завецца Галгофа, дзе і ўкрыжавалі Яго і зь Ім двух другіх наабапал Яго, а ў сярэдзіне Ісуса."* (Ян, 19, 16–18).

Хрыстос павіс на крыжы, але не забыўся на нас, бо якраз тады аддаў нас у апеку Сваёй Маці:

*"Стаялі жа ля крыжа Ісусавага маці Яго і сястра маткі Яго, Марыя Кляопава, і Марыя Магдаліна. Ісус жа, угледзеўшы матку і побач вучня, якога любіў, кажа Матцы сваёй: Жанчына, вось сын твой! Пасьля кажа вучню: вось Маці твая! І з таго часу вучань гэты ўзяў яе да сябе.*

*Пасьля таго Ісус, ведаючы, што ўсё ужо адбылося, каб споўнілася Пісаньне, кажа: піць хачу! Тут стаяла пасудзіна, поўная воцату. Жаўнеры, набраўшыя воцату губкай, і ўзьдзеўшы яе на трысьціну, паднялі да вуснаў Яго, Ісус жа, як узяў воцату, сказаў: Адбылося! і, нахіліўшы галаву, аддаў дух."* (Ян, 19, 25–30).

Будзьма ўдзячныя Ісусу за тое, што аддаў нас пад апекаваньне Сваёй Маці. Будзьма ўдзячныя Марыі за тое, што ўзяла нас за сваіх дзяцей. Няхай заўсёды жыве ў сэрцы шчырая, дзяцінная любоў да Марыі!



## СЛАЎНЫЯ ТАЯМНІЦЫ

### 1. Уваскрошаньне Хрыстова

Укрыжаванага Ісуса пахавалі ды паставілі жаўнераў, каб вартавалі цела. Але на трэці дзень адбылося тое, пра што казалі пракокі:

*"І вось сталася вялікае трасеньне зямлі; бо Анёл Гасподні, зыйшоўшы зь неба, прыступіўшы, адваліў камень ад дзьвераў магілы і сядзеў на ім. Выгляд яго быў як бліскавіца, і вопратка яго белая як сьнег. І ад страху прад ім задрыжэлі вартаўнікі і зрабіліся як нежывыя."* (Мацей, 28, 2–4).

А да кабет, што прыйшлі да труны, сказаў анёл: *"Ня бойцеся, бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса расьпятага. Яго няма тут, Ён уваскрос, як і сказаў. Хадзеце, паглядзеце месца, дзе ляжаў Госпад."* (Мацей 28, 5, 6).

Хрыстос Сваёю сьмерцю вызваліў нас зь няволі грэху, адкрыў нам неба й на трэці дзень паўстаў з труны. Хрыстова Уваскрошаньне – то аснова нашае веры. Калі б Хрыстос не ўваскрос, нашая вера была б дарэмная.

Папросім Уваскросшага Ісуса, каб умацаваў нашую веру. І разам з гэтым абудзім у сабе веру ў нашае ўласнае ўваскрошаньне!

### П. Узьнясеньне Ісуса

На саракавы дзень па Сваім Уваскрошаньні Хрыстос узяў вучняў і *"вывеў іх зь места да Віфаніі і, падняўшы рукі Свае, багаславіў іх. І сталася, як багаславіў іх, стаў аддаляцца ад іх і ўзнасіцца на неба. І яны пакланіліся Яму і вярнуліся ў Ерусалім з радасьцю вялікаю."* (Лука, 24, 50–52).

*"Калі ж яны пільна ўглядаліся ў неба, як Ён адыходзіў, вось двое мужоў паўсталі перад імі ў белых вопратках, дый сказалі яны: Мужы Галілейскія! Чаго стаіцё, узіраючыся на неба? Гэты Ісус, узяты ад вас на неба, прыйдзе гэтаксама як бачылі вы Яго ўзыходзячым на неба."* (Дзеяньні 1, 10, 11).

Хрыстос узьнёсься на неба, каб падрыхтаваць мейсца Сваім вучням і ўсім нам. Будзем жа намагацца адчуць і набыць штораз большую любоў Бога. За гэтую любоў нас і чакае неба!

### Ш. Спасланьне Сьвятога Духу

Перад сваім узьнясеньнем сказаў Хрыстос да апосталаў:

*"Вы ж заставайцеся ў месьце Ерусаліме, пакуль не адзенецеся сілаю звыш."* (Лука, 24, 49).

*"І, увайшоўшы, узышлі ў сьвятліцу . . . Усе яны трывалі аднадушна ў малітвах і просьбах разам з жанчынамі і Марыяй, Маткай Ісусавай, ды братамі Ягонымі."* (Дзеяньні, 1, 13, 14).

*"І, як канчаўся дзень Пяцідзесятніцы, усе былі аднадушна разам. І зьнячэўку пачуўся гук зь неба, быццам ад наляцеўшага буйнага ветру, ды напоўніў увесь дом, дзе яны сядзелі. І паказаліся ім падзеленыя языкі, быццам агнявыя, ды паселі на кожным зь іх. І напоўніліся ўсе Духам Сьвятым ды пачалі гутарыць іншымі мовамі так, як Дух Сьвяты даў ім прамаўляці."* (Дзеяньні, 2, 1–4).

Трэцяя Божая Асоба, Сьвяты Дух, сыходзіць на апосталаў ды распачынае сваю дзейнасьць у сьв. Царкве. Гэта той Суцяшальнік, пра Якога казаў Хрыстос вучням падчас Таемнае Вячэры.

Будзьма ж шанаваць Сьвятога Духа, больш карыстацца зь Ягоных дароў ды Ягонае ласкі!

### 1У. Унебаўзяцьце Прачыстае Дзевы Марыі

Прачыстая Дзева Марыя заснула. Такою была Яе сьмерць, як сон ў чалавека. Калі яна мелася скончыць Сваё жыцьцё, апосталы, прыведзеныя вешчым духам, сабраліся вакол Яе, каб разьвітацца ды прасіць, каб малілася за іх, калі будзе ў небе ў Свайго Сына.

*"Велічай душа мая сьвяты пераход Маці Божай зь зямлі да неба"*, – такі прыпеў да 9 сьпеву канона Унебаўзяцьця.

Такою была сьмерць Марыі.

Нас таксама чакае хвіліна сьмерці. Якая яна будзе, мы ня ведаем. Калі яна прыйдзе, мы ня ведаем. Але для пабожнага чалавека сьмерць – адно пераход зь зямлі да неба, да вечнага жыцьця, да Бога.

Будзьма ж жыць па-Божаму, каб заслужыць сабе ласку добрае сьмерці! Просім гэтае ласкі ў Прачыстае Дзевы Марыі!

### У. Каранаваньне ў небе Прачыстае Дзевы Марыі

Анёльскія хоры забралі Марыю з душою і целам да неба. Сын Божы суправаджаў Яе да Айца Нябёснага. Радзілася ўся Прасьвятая Тройца. Бо ж увайшла на неба Маці Божага Сына, Заручніца сьв. Духа. Прачыстую Дзеву каранавалі на Царыцу неба й зямлі.

Але ў небе не забылася Прачыстая на зямлю і на людзей. Як Царыца неба й зямлі Яна шчодра раздае ласку тым, хто ў Яе просіць.

Будзьма ж больш цаніць Божую ласку! Гэта найвялікшы скарб нашае душы. Божая ласка робіць нас Божымі дзецьмі, дае нам права на неба, наша душа асьвячаецца прысутнасьцю Прасьвятое Тройцы!

Мал. А.Ткачовай



СЯРГЕЙ ГОРБІК

# ХОРАМ НА НЯМІЗЕ

***Зь нешматлікіх культавых пабудоваў, што цудам ацалелі ў гады атэістычных ліхалецьцяў у Менску, ня лепшы лёс напаткаў царкву на Нямізе, вядомую пад назвамі Петрапаўлаўская, Екацярыненская, проста Жоўтая. Простыя й дасканалыя абрысы гэтае царквы згубіліся на фоне ламаных шэрых гмахаў, і ў выніку бяздарнае перабудовы старога месца, хорам глядзіць на горад апсідай, уткнуўшыся прыгожым сваім фасадам у самы бок бясконцага пачварнага будынку, названага менчукамі "гільяцінай". Калісьці ў царкве захоўваўся цудатворны абраз Менскай Маці Божай Адзігітрыі, а цяпер у ёй туліцца Цэнтральны дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва БССР, і сядзіць на ўваходзе міліцыянт, і даўно памерла тут рэха галасоў, што пялі ў хораме хвалу Божую . . .***

***Затое ня сьціхла й дагэтуль водгульле спрэчкаў пра канфэсыйную прыналежнасьць гэтае шматпакутнае царквы, якія пачаліся ад самага ейнага нараджэньня. Хто законны ўладар сьвятыні – грэка-каталікі, што закладалі яе, ці праваслаўныя, якія атрымалі ва ўладаньне зямлю, дзе ўжо пачалася закладка царквы?***

***Гэтыя спрэчкі прыпыніліся толькі пасьля гвалтоўнага далучэньня Беларусі да Расейскае імпэрыі ды пасьлядоўнага аправаслаўліваньня нашых земляў. А Полацкі сабор 1839 году закрыў канчаткова ня толькі пытаньне правоў уніятаў на Петрапаўлаўскую царкву, але і ўсе уніяцкія пытаньні ўвогуле.***

Але нешта непакоіла праваслаўных уладароў царквы. І ў 1913 годзе выйшла ў сьвет кніга айца Паўла Афонскага "Триста лет в Православии: Исторический очерк трехсотлетия существования Минского Екатерининского собора", дзе былі руплiва сабраныя ўсе доказы правоў Рускае Праваслаўнае Царквы на гэтую сьвятыню і з гэтых пазыцыяў выкладзена ейная гісторыя. Аднак, калі да гэтае гісторыі дадаць некаторыя факты і дакумэнты, якія пакідае па-за ўвагаю Павал Афонскі, то карціна падзеяў вакол царквы зьменіцца і паўстане іншая вэрсыя нараджэньня ды існаваньня Петрапаўлаўскага сабору.

У 1596 годзе на Берасьцейскім саборы была прынятая грамата аб зьяднаньні Праваслаўнай Царквы Рэчы Паспалітае з Рымам. Разам зь іншымі іерархамі унію падпісаў архімандрыт Менскі Паісей, чым далучыў да Уніі ўсе менскія праваслаўныя харамы й кляштары. Акрамя таго, сам мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі Міхайла Рагоза – першы уніяцкі мітрапаліт – да атрыманьня мітрапалічага сану быў архімандрытам Менскім. Менск, такім чынам, стаўся адным зь першых асяродкаў Уніі на Беларусі.

На пачатку ХУП стагодзьдзя менскія царкоўныя ўлады вырашылі закласьці новую сьвятыню. Падрыхтавалі праект царквы і зьвярнуліся да мітрапаліта Іпація Пацея па дазвол і благаслаўленьне.

З бласлаўленьня мітрапаліта будаўніцтва пачалося. Дакладны год закладаньня уніяцкага хораму на Нямізе невядомы, але не пазьней за 1607–1608 гады.

Але зямля, на якой будавалася новая царква, належыла княгіне Аўдоцьці Рыгораўне Друцкай-Горскай, удаве каралеўскага маршалка Багдана Стацкевіча. Княгіня варожа ўспрыняла Унію і не хацела дапусьціць існаваньня на сваіх землях грэка-каталіцкае царквы. І хаця праваслаўных у Менску практычна не засталося, і не было ніводнага праваслаўнага сьвятара ані царквы, княгіня 23 лістапада 1611 году ахвяравала тры сваіх пляцы на Нямізе пад праваслаўную царкву і манастыр ва імя сьвятых апосталаў Пятра і Паўла, каб "набоженство зыклымъ церкви святое восточное порадкомъ спокойне отправовали". Адразу быў адасланы ліст архімандрыту Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра (аплоту барацьбы праваслаўных з Уніяй у Вялікім Княстве Літоўскім) Лявоньцію Карповічу, у якім княгіня прасіла накіраваць у Менск патрэбную колькасьць інакаў дзеля назіраньня за будаўніцтвам манастыра і ўладкаваньня манастырскага жыцьця. Архімандрыт задаволіў просьбу княгіні, і ў 1612 годзе віленскія манахі прыбылі ў Менск. Улетку 1612 году ў новай царкве пачаліся праваслаўныя набажэнствы.

А ўжо 14 верасьня 1612 года возны Менскага ваяводзтва разам з менскім пратапопам Гаінскім і ўсімі саборнымі сьвятарамі, прыйшоў у Менскую ратушу і заявіў, што праваслаўныя паўсталі супраць пратапопа і саборных сьвятароў за прыняцьце імі Уніі, сілай выгналі іх з саборнае царквы Нараджэньня Прасьвятой Багародзіцы і аддалі гэтую царкву "новоприбылым из Вильны до Менска



*Петрапаўлаўская царква. Першапачатковы выгляд, вернуты ў выніку рэстаўрацыі 1979 г.*

чернецам". На падставе каралеўскіх указаў возны патрабаваў, каб будаўніцтва манастыра было спынена, а царква была вернута уніяцкаму пратапопу Гаінскаму, пад пагрозай штрафу ў 5.000 літоўскіх грошаў. 21 кастрычніка 1612 году возны адаслаў аналагічны ліст на імя менскага войта Рыгора Тэрляцкага.

Лісты вознага Менскага ваяводзтва надзвычай важныя. На іхнай падставе можна меркаваць, што адабраная ва уніятаў царква Нараджэньня Прасьвятой Багародзіцы і ёсьць тая самая грэка-каталіцкая царква на Нямізе, якую будавалі з бласлаўленьня мітрапаліта – у праваслаўнай назьве царква сьв. сьв. Пятра і Паўла (з 1795 году – Екацярыненскі сабор). За гэта сьведчыць і тое, што ў далейшым мы не знаходзім дакумэнтаў аб вяртаньні гэтай царквы уніятам альбо разбурэньні яе. І аб Петрапаўлаўскім саборы ўсе крыніцы пішуць як аб адзіным праваслаўным хораме ў Менску. Гэта пацьвярджаюць і дакумэнты аб наведваньні Менска праваслаўным мітрапалітам Пятром Магілам у 1635 годзе, і інвэнтарныя кнігі Менскага ваяводзтва. Ды і барочная архітэктура царквы, тыповая для уніяцкіх хорамаў ХУ11 ст., гаворыць сама за сябе. На шматлікіх судовых працэсах адзіным аргумэнтам адмовы вярнуць уніятам Петрапаўлаўскую царкву было права княгіні Друцкае-Горскае на пляцы (дзе стаяла царква), перададзенае праваслаўнаму манастыру. Пры гэтым царква ўвесь час уважалася грэка-католікамі за "незаконна атабраную".

Безьліч судовых працэсаў паміж уніятамі і праваслаўнымі так ні да чога і не прывялі, і царква засталася ў ранейшым падпарадкаваньні: суды Рэчы Паспалітае

сьвята ахоўвалі права ўласнасьці.

Княгіня Друцкая–Горская паставіла ўмовай перадачы зямельных пляцаў падпарадкаваньне новай царквы і кляштара ў Менску Віленскаму Сьвятадухаўскаму кляштару. Асноўнай мэтай было адкрыцьцё ў Менску менавіта праваслаўнае царквы, а кляштар быў неабходны толькі як гарант захаваньня ейнае праваслаўнасьці, і, на думку княгіні, якраз віленскія сьвятадухаўскія манахі "цьвёрда і непахісна" трымаюцца праваслаўя і дапамогуць яму ўтрымацца ў Менску.

Такім чынам, праваслаўныя пабудавалі толькі Петрапаўлаўскі кляштар, а царкву пераўладкавалі. Ня выключана, што уніяты не скончылі цалкам будаўніцтва да 1612 году, і патрабаваліся яшчэ нейкія работы. І таму кляштар нідзе ў судовых справах не згадваецца, уніяты на яго не прэтэндавалі – яны хацелі не забраць пляцы княгіні, а вярнуць сваю царкву.

Да восені 1613 году віленскія манахі адбудаваліся і 6 лістапада княжна Друцкая–Горская фармальна перадала айцу ігумену Паўлу Дамжаву свае пляцы на Нямізе, а зь імі разам царкву і манастыр.

12 лістапада 1613 году ў манастыры пачаліся службы. Віленскія манахі разгарнулі актыўную дзейнасьць. Ужо да 1617 года пры манастыры дзейнічала школа Менскага праваслаўнага брацтва.

Але уніяты не пакідалі надзеі вярнуць царкву. І 15 студзеня 1620 году намесьнік мітрапаліта Язэпа Вэльяміна Руцкага Іларыён Барановіч падаў скаргу на інакаў менскага праваслаўнага Петрапаўлаўскага манастыра. Ён абвінавачваў іх у тым, што яны адабралі ва уніятаў мітрапалічую царкву Нараджэньня Прасьвятой Багародзіцы і ў тым, што яны незаконна пабудавалі манастыр на Нямізе: існавала каралеўская грамата, згодна зь якой забаранялася будаваць новыя праваслаўныя цэрквы і кляштары. Скарга намесьніка мітрапаліта не была задаволена, перашкодай стала (як і раней) права княгіні Друцкай–Горскай на пляцы, перададзеныя ёю манастыру.

Нягледзячы на стараньні інакаў, колькасьць праваслаўных братчыкаў у грэка–каталіцкім Менску няўхільна памяньшалася. І, каб павялічыць колькасьць сваіх вернікаў, сьвятары пачалі заахвочваць да хросту заможных мясцовых гандляроў–юдэяў. Адзін з такіх хростаў адбыўся 9 жніўня 1629 году. Скончыўся ён тым, што юдэі пабілі камянямі сваіх адступнікаў.

18 сакавіка 1633 году кароль Рэчы Паспалітай Уладыслаў 1У выдаў менскім праваслаўным прывелей на роўнасьць зь іншымі хрысьціянскімі канфэсіямі. А ў 1635 годзе манастыр наведаў праваслаўны мітрапаліт Пётр Магіла. Ён застаўся вельмі задаволены духам манахаў і паствы, аб чым выдаў асобную грамату.

Між тым, з падзеньнем колькасьці вернікаў менскія праваслаўныя духоўныя дзеля паляпшэньня становішча ўсё часьцей ужывалі дзіўныя мэтады. Так, у 1670 годзе уніяцкі мітрапаліт Гаўрыіл Календа скардзіўся каралю на свавольствы грэцкага Македонскага мітрапаліта Сафонія Гелеспанаса, які жыў тады ў Петрапаўлаўскім кляштары. Гэты мітрапаліт рукапалагаў у сьвятары людзей згодна выключна з уласнаю воляй і ня толькі з духоўных, але і са сьвецкіх асобаў без патрэбнае адукацыі і падрыхтоўкі.

Судовыя спрэчкі за царкву працягваліся. Кожны новы уніяцкі мітрапаліт лічыў сваім абавязкам паспрабаваць вярнуць яе, але ўсё было марна. Ажно пакуль уніяцкі плябан Юрэвіч у 1691 годзе не вырашыўся на надзвычайны крок: ён сабраў людзей – ды напаў на Петрапаўлаўскі манастыр і тры дні трымаў яго ў аблозе. Плёну і гэта не прынесла.

Але і праваслаўным не было шчасьця ў Петрапаўлаўскім манастыры. Паства і даходы яговыя ўвесь час памяншаліся. Дайшло да таго, што ў 1727 годзе ігумен Гедыён Шышка аддаў менскім жыдом на вечны водкуп манастырскія пляцы і дамы, каб хоць як-небудзь выправіць фінансавыя справы абіцелі. А ў справаздачы ігумена Азарыя мітрапаліту Арсеню Магілянскаму ад 27 кастрычніка 1765 году напісана, што ў Менску засталося праваслаўных толькі 133 чалавекі, зь іх 76 мужчынаў і 57 жанчынаў. Прычым толькі адносна аднаго зь іх – Самуіла Ласкоўскага, 70 год – у справаздачы адзначана, што ён "купец". Праваслаўных шляхцічаў і заможных мяшчанаў на час складаньня справаздачы ў Менску не засталося ўвогуле. Магчыма, у хуткім часе менскі Петрапаўлаўскі манастыр спыніў бы сваё існаваньне. Тым больш, што ў 1787 годзе тут жыў толькі адзін іераманах і адзін манах, абодва старыя і нямоглыя, а набажэнствы былі спыненыя.



*Царква пасьля перабудовы ў 1875 годзе.*

Існуюць зьвесткі, што ў гэты час (згодна з умовамі Слуцкай канфэдэрацыі паміж праваслаўнымі і пратэстантамі 1766 году) Петрапаўлаўская царква перадавалася ў часовую арэнду пратэстантам.

Уратавала Петрапаўлаўскую царкву . . . далучэньне Беларусі да Расеі. У 1795 годзе царква, адрамантаваная на адпушчаныя Екацярынай П грошы, робіцца кафэдральным саборам. Тады ж яна набывае другую назву – Екацярыненскі сабор. Але ўжо 4 кастрычніка 1799 году сынодам Рускае Праваслаўнае Царквы быў выдадзены загад аб пераносе кафэдральнага сабору ў іншую царкву (былы уніяцкі храм), а ўвесну 1800 года загад быў выкананы.

Няшчасьці працягвалі перасьледаваць Екацярыненскую царкву. Пад час вайны 1812 году яна была абрабаваная войскамі Напалеона. У 1813 годзе пры Екацярыненскай царкве было толькі 65 прыхадзкіх двароў.

На час скасаваньня Уніі ў Екацярыненскай царкве налічвалася 153 прыхаджаніна. Пасьля Полацкага сабору 1839 году царква была ўзьведзеная ў ранг гарадзкога сабору. Дзеля павелічэньня паствы яе "ўзбуйнілі" за кошт былых уніяцкіх прыходаў: цэркваў Уваскрошаньня Хрыстова на Нямізе ў Менску і Крупіцкай уніяцкай царквы. Дарэчы, у апошняй захоўваўся цудатворны абраз Маці Боскай, вядомы з 1612 года. Пасьля далучэньня абраз узімку знаходзіўся ў Екацярыненскім саборы.

У выніку ўзбуйненьня, у канцы XIX ст. сабор меў 5584 прыпісных прыхаджанаў, зь якіх толькі 2816 менчукоў, а на пачатку 1913 г. прыхаджанаў было 5698, у тым ліку жыхары 29 вёскаў і паселкаў у Менскім навакольлі.

У 1870–1871 гадох у Екацярыненскім саборы за кошт дзяржаўнай скарбніцы праводзіўся капітальны рамонт. Пад час яго сабор быў перайначаны: дабудаваны купал на квадратным пастаменьце і новыя трох'ярусныя вежы на галоўным фасадзе. На месцы былых манастырскіх пабудоваў быў узьведзены царкоўны дом. Праўда, у канцы XIX ст. пры новым рамонце купал зьнялі, але быў зноў зьменены галоўны фасад, а да заходняга фасаду зроблена прыбудова.

Царква ў рангу гарадзкога сабору праіснавала да П сусьветнай вайны. Была моцна пашкоджанай. Пры рэстаўрацыі 1972–1979 гадоў ей вярнулі старадаўны выгляд. Цяпер у саборы знаходзіцца архіў.

Даўно прысьпеў час вярнуць хрысьціянскую сьвятыню вернікам. Вось толькі – якой канфэсыі? Так ці інакш, а Петрапаўлаўская царква есьць цяпер адзіным у горадзе храмам уніяцкае архітэктуры.

# НАРАДЖЭНЬНЕ ХРЫСТОВАЕ



Нараджэньне Хрыстовае – самае сьветлае, самае прыгожае хрысьціянскае сьвята. "Слава на вышынах Богу і на зямлі мір сярод людзей добрае волі". Так воінства нябеснае дабраславіла нараджэньне Збавіцеля перад пастухамі – першымі сьведкамі ўчалавечаньня Божага, як паведамляе сьв. апостал Лука. (Лк. 2, 14).

Пастухі ўночы сьцергалі скот свой, які пасьвіўся на гарох паблізу Віфлеема Юдэйскага. Пачуўшы ад ангела Божага гэтую вестку, пайшлі шукаць Збавіцеля і знайшлі ў яслях пры дарозе ў Віфлеем Марыю і Язэпа, і Дзіцятка, якое ляжала спавітае на саломе побач з валом і аслом.

Як жа апынулася Сьвятая Радзіна ў ноч на 25 сьнежня ў хлеве, далёка ад Назарэта – горада, дзе жылі плотнік Язэп і ягоная жонка? Паводле эвангеліста Лукі гэта адбылося наступным чынам. Ад кесара Аўгуста – правіцеля Рымскае імпэрыі, у склад якой уваходзіла ў тыя часы і Палестына, выйшаў загад зрабіць перапіс насельніцтва па ўсёй дзяржаве. Перапіс насельніцтва ў Сьвятой Зямлі рабіўся па мейсцах родавых цэнтраў. Таму "пайшоў таксама і Язэп з Галілеі, з места Назарэту, у Юдэю, места Давідавае, званае Віфлеем, бо ён быў з дому і роду Давідавага" (Лк. 2, 4). І калі Язэп быў там разам з Марыяю, якая была цяжарная, надыйшоў час нарадзіць ёй, "і ўрадзіла Сына Свайго Першага, і палажыла Яго ў жолаб, бо ня было ім месца ў заезьдзе". (Лк. 2, 7).

Падзеі, што суправаджалі учалавечаньне Божае, прышэсьце Збавіцеля ў сьвет, і адлюстроўваюцца на беларускіх праваслаўных і уніяцкіх абразох. Праўда, на праваслаўных абразох, кампазыцыйная пабудова каторых была закансэрваваная паводле пастановы Стогаловага сабору 1551 году, яслі–хлеў малююцца ў выглядзе пячоры ды прысутнічае служка – пэрсанаж вядомы з апакрыфічных Эвангельляў. На уніяцкіх абразох хлеў мае выгляд больш знаёмы беларусу. Гэта – драўляная пабудова, перакрытая дзіравым саламяным дахам. Уніяцкія мастакі ня толькі імкнуліся перанесьці падзеі Сьвятой Гісторыі ў натуральныя абставіны, звыклыя для гледача, але і падкрэсьліць прастату і нават мізэрнасьць таго асяродку, дзе адбываецца агульначалавечая, касьмічная падзея. Мы бачым просты плецены кошык, у якім ляжыць Немаўля, вузкі чырвоны пасік, якім замацаваны Ягоныя белыя пялюшкі. Дарэчы адзначым, што чырвоная стужка з далёкіх, яшчэ паганьскіх, часоў у беларусаў адыгрывала ролю абярога, абароны ад "суроку", нядобрых духаў, і яе нельга ўбачыць на іншых, небеларускіх абразох.

На тым абразе, які Вы, шаноўны чытач, бачыце на ілюстрацыі, можна заўважыць яшчэ шэраг прыкметаў, характэрных менавіта для уніяцкіх, беларускіх абразоў. Гэта шырокія палі, якія абмяжоўваюць сьветлавое, маляўнічае вакно. Палі ўпрыгожваюцца графічным малюнкам а, часам, сапраўднымі, ці штучнымі кляйнотамі – каштоўнымі камянямі, ці іх імітацыяй. Тло (фон) маляўнічага вакна вельмі часта пакрываецца рэльефнай рэзьбою па леўкасе ў выглядзе кветак і пазалотаю. Мігценьне залатых блікаў ад сьвятла лампадаў ці сьвечак пагружае сцэну Нараджэньня ў незвычайнае містычнае асяродзьдзе, надае ёй сьветланоснасьць, глыбіню і гучнасьць чыстым фарбам малюнка.

Гэта і прымушае нас бачыць у простай сцэне пакланеньня пастухоў не жанравую карціну, не гістарычную падзею з далёкіх часоў, а менавіта абраз – маляўнічае сьведчаньне нараджэньня Збавіцеля, прышэсьця Сына Божага ў сьвет, акт найвялікшае любові Божае да людзей. Адчуваньне замілаванасьці і, адначасна, духоўнай усхваляванасьці разьліта па ўсёй кампазыцыі – і ў постацях пастухоў ды Язэпа, і ў выразе твару маладое Маці, якая падаецца ў больш буйных памерах за іншых, паколькі зьяўляецца тут другой галоўнай асобай. Гэта яшчэ адзін умоўны прыём, які шырока выкарыстоўваецца ў мастацтве абраза.

Таксама і выява новазапаветнай Тройцы – Саваофа, Ісуса Хрыста ды Духа Сьвятога, якую можна бачыць уверсе, вышэй белае стужкі – умоўны прыём, які нагадвае гледачу канец зямнога шляху Збавіцеля, калі Ён, уваскросшы, сядзе на нябёсах побач з Айцом. Зьяўленьне гэтай сцэны, якая надае кампазыцыі пэўную адпавядальнасьць, характэрная прыкмета сакральнага мастацтва эпохі барока. Яна дазваляе аднесьці час стварэньня абраза да канца XVII – пачатку XVIII ст.ст., калі стыль барока, які зарадзіўся на захадзе Эўропы, пачынае моцна ўплываць на уніяцкае мастацтва.

Уніяцкае іконапісаньне не было адгароджанае ад каталіцкага мастацтва непералазнаю сьцяной. Але яно ніколі не губляла сваёй самастойнасьці і адметнасьці. Так, на некаторых уніяцкіх абразох Нараджэньня Хрыстова у далечыні можна бачыць трох волхваў на конях, якія йдуць за Віфлеемскаю Зоркаю, каб пакланіцца Цару

Юдэйскаму і прынесьці Яму сымбалічныя дары – золата, ладан і мірру. Гэтая сцэна пакланеньня трох волхваў, або трох каралёў вельмі пашыраная ў каталіцкім заходне-эўрапэйскім мастацтве і вельмі рэдкая для мастацтва Уніі, якое аддавала перавагу простай, дэмакратычнай і пяшчотнай кампазыцыі пакланеньня пастухоў.

І на заканчэньне некалькі словаў пра тое, як зьявіўся абраз, які Вы бачыце, у музэі Старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі Навук. Гэта было ў 1978 годзе, за год да адкрыцьця музэю. Загадчыца музэю В.В.Церашчатава і аўтар гэтых радкоў даволі нечакана атрымалі дазвол наведаць фонд абразоў Дзяржаўнага Гістарычнага музэю ў Маскве. Было вядома, што экспэдыцыі ДГМ у даваенны і пасьляваенны час вывозілі абразы зь Беларусі. Мы апынуліся ў вялікай зале, дзе на сьцелажах захоўвалася каля 6 тысячаў помнікаў, і малады загадчык аддзелу крыху саромеючыся паведаміў нам, што маем мы дзьве гадзіны і што дапамагчы ня можа, бо й сам ня ведае, што дзе стаіць. Пасьля кароткае разгубленасьці мы прыняліся за справу і, калі наш гаспадар вярнуўся, прад'явілі яму сем абразоў. Інвэнтарныя кнігі засьведчылі, што ўсе яны зь Беларусі. Бяз спрэчкаў быў падпісаны акт аб перадачы помнікаў у Менск. А справа была простая – мы шукалі абразы навобмацак, паводле прыкметаў, якія я адзначыў вышэй. Па наяўнасьці палёў і па мярэжыстым фоне. Гэта і дазволіла нам хутка знайсьці беларускія помнікі.

Так вярнуўся на Бацькаўшчыну гэты цудоўны уніяцкі абраз Нараджэньня Хрыстова. Нам ня ведама, скуль ен паходзіць – зь Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны альбо Міншчыны. Ён належыць Беларусі. То хай ен стане й знакам адраджэньня беларускае веры – Уніі.

# ЦАРКВА

21 верасьня 1990 году ў Менску адбыўся ўстаноўчы сход менскіх грэка–каталікоў, на якім была абраная Царкоўная Рада менскай грэка–каталіцкай абшчыны. На працягу верасьня–лістапада грэка–каталіцкія абшчыны паўсталі ў Гомлі, Полацку, Наваполацку. Распачаўся рух у Вітабску. Азваліся уніяты з Гародні, Маладэчна, Магілёва, Берасьця, Стоўпцаў, Ліды, Фаніпаля, Воршы. Наладзіліся рэгулярныя грэка–каталіцкія набажэнствы на кватэрах, а, часам, і ў храмах. Зьявілася шмат ахвочых прыняць хрост ці павянчацца ва ўсходнім абрадзе.

Гэта сьведчыць пра тое, што жывая душа нашага народу прагне, часам падсьвядома, вярнуцца да свае старое Веры, да свае Царквы. Бог не забыўся пра нас, і трэба адно ісьці да Яго *сваім* шляхам, прасіць Яго *па-свайму*, і Ён нас пачуе.

На шляху уніяцкага адраджэнцкага руху стае шмат перашкодаў. І чарговая зь іх – новы Закон СССР "Аб свабодзе сумленьня . . .", які не дазваляе наноўстворанным абшчынам рэгістравацца і браць сабе храмы да 1 ліпеня 1990 году. На гэтай падставе пакуль адмоўлена ў рэгістраваньні ўсім грэка–каталіцкім абшчынам на Беларусі. Між тым рэгіструюцца дзе-нідзе праваслаўныя прыходы і прымаюцца заяўкі на пабудовы новых цэркваў (толькі ў Менску – восем). Існуе небясьпека, што і колішнія уніяцкія сьвятыні будуць перададзеныя Рускай Праваслаўнай Царкве. Але ўсё ж новы Закон не забараняе маліцца, не забараняе весьці царкоўнае жыцьцё ўвогуле і не патрабуе абавязковай рэгістрацыі абшчынаў – г.зн. прызнае нашую Царкву не юрыдычна, але фактычна.

Такім чынам, сёньня на Беларусі створаная і дзейнічае Грэка–Каталіцкая Царква. Першай унутрыцаркоўнай праблемай стала вырашэньне пытаньня кананічных адносінаў з царкоўным цэнтрам.

Беларусы маюць свайго Апостальскага Візытатара а.Аляксандра Надсана, але ягоная юрысдыкцыя абдымае беларусаў–каталікоў абодвух абрадаў на эміграцыі. Ёсьць на Беларусі каталіцкі біскуп Тадэвуш Кандрусэвіч, але ён ня мае юрысдыкцыі на ўсходні абрад. Да таго ж, як ведама зь гісторыі, падпарадкаваньне уніятаў іерархам лацінскага абраду на Беларусі у ХУШ ст. і ў 20–30 гг. ХХ ст. мела для іх згубныя вынікі. І ў гэтых варунках новаўтворанымі грэка–каталіцкімі беларускімі абшчынамі было вырашана зьвярнуцца на Украіну, у Львоў, дзе ўжо аднавілася ва ўсёй сваёй былой моцы Царква нашых адзінаверцаў.

19 кастрычніка 1990 году Кіева–Галіцкі мітрапаліт, архібіскуп Львоўскі Уладзімір Стэрнюк даў менскай грэка–каталіцкай абшчыне грамату аб прыналежнасьці абшчыны да старадаўняе Кіева–Галіцкае мітраполіі. 30 кастрычніка гэткую ж грамату атрымала гомельская уніяцкая абшчына. І ў той жа дзень, 30 кастрычніка, мітрапаліт Уладыка Уладзімір прызначыў сьвятара а.Пятру Кузьмічова *дэканам* грэка–каталіцкіх абшчынаў і вернікаў Беларусі, тым самым паклаўшы пачатак арганізацыйнае будовы будучае Беларускае Царквы.

Ёсьць Царква, ёсьць адміністрацыя, ёсьць цэнтр, зь якім яна знаходзіцца ў кананічнай сувязі.

Гэтакі крок беларускіх грэка–каталікоў абумоўлены як сучасным становішчам на Беларусі, гэтак і гістарычна. Цэлая Беларусь некалі належала да Кіева–Галіцкае мітраполіі (штопраўда мітрапаліты найчасьцей жылі ў Вільні ды Навагрудку). Дый сёньня – ад каго яшчэ чакаць дапамогі, як не ад сваіх братоў–адзінаверцаў?

Шмат дае нам і практычна кананічная сувязь з Кіева–Галіцкай мітраполіяй. Нашыя хлопцы, у якіх ёсьць сьвятарскае пакліканьне, маюць цяпер магчымасьць вучыцца ў некалькіх заходнеўкраінскіх сэмінарыях ды ў Львоўскай грэка–каталіцкай акадэміі. Тыя ж, што маюць вышэйшую адукацыю, могуць прайсьці падрыхтоўку і атрымаць сьвятарскія сьвячэньні за некалькі месяцаў. Белае грэка-каталіцкае духавенства мае права мець сям'ю. Тыя ж, хто адчуў Боскае пакліканьне да манаскага жыцьця, цяпер маюць магчымасьць праходзіць навіцыят у кляштарах дзевяці жаночых манаскіх Законаў (Ордэнаў) і трох мужчынскіх Законаў на Заходняй Украіне, і пасьля вяртацца на Беларусь, каб адраджаць манаскае жыцьцё ў старых уніяцкіх манастырох, якіх адно ў Менску тры.

Ёсьць таксама магчымасьць вучыцца на сьвятароў і атрымліваць сьвецкую тэалагічную адукацыю ў Празе, Браціславе, у Лёндане і Рыме.

Такім чынам, асновы будучае Беларускае Грэка–Каталіцкае Царквы закладзены. Памагай ей Бог.

***Павал Богдан***



# СУСЬВЕТНАМУ ВАЛАДАРУ ЯНУ ПАЎЛУ ПАПУ РЫМСКАМУ

## Беларусы грэка–каталікі

*Маю Я і іншых авечак, што ня з гэтага двара, і гэных трэба Мне прывесьці, каб і яны пачулі голас Мой. І станецца адно стада і адзін пастыр.*

*Ян 10, 16.*

**Сьвяты Ойча!**

Сярод дзяцей Божых на зямлі існуе спрадвеку беларускі народ. Праз вякі і выпрабаваньні захаваў ён сваю культуру, сваю мову ды веру ў Бога.

Беларусь прыняла Хрысьціянства ў благаслаўлёныя часы царкоўнай Еднасьці. І таму вельмі натуральна, што ў 1596 годзе дзеячы беларускай Праваслаўнай царквы падпісалі унію з Рымам і гэтым далучылі Беларусь да Адзінай Сусьветнай Царквы. З таго часу сталіся беларусы каталікамі ўсходняга абраду. Айцец нябёсны чуў голас беларусаў сярод галасоў усіх народаў, што славілі Яго, і благаслаўляў наш квітнеючы Край. Грэка–Каталіцтва сталася вынікам разьвіцьця беларускага Хрысьціянства і апораю беларускай духоўнасьці й нацыянальнасьці. Але воляю Божаю былі пасланыя нашай Бацькаўшчыне цяжкія выпрабаваньні.

У 1839 годзе Унія была гвалтоўна скасаваная маскоўскім царом Мікалаем 1, і ўся палітыка ворагаў Беларушчыны – паланізацыя і русыфікацыя – была накіраваная на тое, каб беларусы зьніклі як этнічная адзінка, як касьмічная зьява, як спараджэньне Божае.

Але Бог не пакінуў сваіх дзяцей, што ўжо 150 гадоў блукаюць у цемры. Гарачыя жарынкі задушанай веры раз–пораз успыхваюць полымем.

Паўстанне Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе, дзейнасьць беларускага нацыянальнага Адраджэньня на пачатку XX стагодзьдзя, утварэньне грэка–каталіцкіх парафіяў у 20–30-х гадох у Заходняй Беларусі ставілі сваёю мэтай адраджэньне Беларускай Нацыянальнай Царквы. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтую справу працягвалі айцы, што апынуліся ў царкоўнай эміграцыі. Яны маліліся за Беларусь і за нашыя душы.

Пачутыя Богам гэтыя малітвы а таксама гарачыя памкненьні беларусаў нарадзілі новую хвалю адраджэньня Грэка–Каталіцкай Царквы на Беларусі. Цяпер да справы далучыліся маладыя сілы. Сёлета ў Менску ўтварылася суполка "Унія", якая распачала асьветніцкую і выдавецкую дзейнасьць. Пачаў выходзіць часопіс хрысьціянскага сумоўя "Унія".

Спакваля пачалі стварацца рэлігійныя абшчыны каталікоў усходняга абраду ў Менску, Віцебску, Полацку, Наваполацку, Гомлі, Магілёве. Азываюцца грэка–каталікі і зь іншых месцаў Беларусі. Народ углядаецца ў сваю душу і знаходзіць у ёй чыстыя зярняты заглушанай плевеламі веры. І цяпер патрэбныя нам руплівыя садоўнікі, якія б даглядалі ды ўзрошчвалі тыя зярняты, каб далі яны добры ўраджай. Зараз жа на ўсю Беларусь тры грэка–каталіцкія сьвятары. Ня маюць вернікі сваіх храмаў, бо нашыя цэрквы й абразы зьнішчаныя альбо адабраныя. Няма літаратуры – малітаўнікаў, Эвангельляў, асабліва неабходнай дзіцячай хрысьціянскай літаратуры, – менавіта беларускай, уніяцкай.

Мы робім ўсё, што ў нашых сілах, дзеля гэтае сьвятое справы. І мы просім Вашага, Сьвяты Ойча, благаславеньня на далейшую працу.

Слава Ісусу Хрысту!

Дэкан грэка–каталіцкіх суполак і вернікаў Беларусі а. Пётра Кузьмічоў, Старшыня менскай грэка–каталіцкай абшчыны Сяргей Абламейка, Старшыня суполкі "Унія" Ірына Дубянецкая, Старшыня полацкай грэка–каталіцкай абшчыны Мікола Шарак, Старшыня гомельскай грэка–каталіцкай абшчыны Алег Лабун, ад грэка–католікоў Наваполацку Анатоль Кулік, ад грэка–каталікоў Віцебску Людміла Вакар, ад грэка–каталікоў Маладэчна Уладыслаў Сьвяньцiцкі, ад грэка–каталікоў Стоўпцаў Ігар Міхно.

Менск, 20 лістапада 1990 г.

*Гэты ліст быў адасланы Апостальскаму Візытатару для беларусаў–каталікоў замежжа а. Аляксандру Надсану для далейшае перадачы ў Ватыкан.*

# КРЫЖОВЫ ХОД У ВІТАБСКУ




*Айцец Сэбасьцьян чытае Сьвятое Эвангельле ля "Сьцяны плачу".*

Халодная імжа і безнадзейна шэрае неба над Вітабскам 10 лістапада. Зьмерзлыя, панурыя гараджаны амаль не зьвяртаюць увагі і не прыпыняюцца каля невялікага гурту людзей з Крыжам, якія чырвонымі далонямі затуляюць ад ветру й дажджу трапяткія агеньчыкі сьвечак. На Крыжы надпіс "Пакутнікам Беларусі" і абразок з выяваю сьвятога пакутніка Ізафата Кунцэвіча.

Людзі бяруць Крыж на плечы, і працэсія рушыць у накірунку Усьпенскай горкі – запланаванага месца ўстаноўкі Крыжа. За Крыжам у поўным аблачэньні ідзе грэка–каталіцкі сьвятар са Львова айцец Сэбасьцьян. Некалькі дзявочых галасоў вядуць уніяцкія гімны й псальмы. У грамадзе, што рушыць за Крыжам, грэка–каталікі з Вітабску, Менску, Полацку. Працэсія прыпыняецца каля "Сьцяны Плачу", з намаляванымі выявамі зьнішчаных вітабскіх храмаў, дзе стаяла калісь уніяцкая царква. Айцец Сэбасьцьян чытае сьвятое Эвангельле – і працэсія рушыць далей. Вось і высокі бераг Дзьвіны. Тут некалі сталі архірэйскія палаты, тут адбылося жахлівае забойства архібіскупа Полацкага Ізафата, з гэтага берагу скінулі ягонае цела, тут прынялі яго халодныя хвалі і адбыўся цуд сьвячэньня вады.

Сьцішана–трапяткое пачуцьце далучанасьці да сьвятое справы яднае людзей. Праз некалькі хвілінаў высокі Крыж паўстане над Дзьвіною на знак памяці нашчадкаў, на знак надзеі уваскрашэньня Царквы, за якую загінуў сьвяты пакутнік . . .

Але не настаў час.

Гарэлі ў далонях, змагаліся зь ветрам агеньчыкі сьвечак . . . Ва ўрачысты настрой духоўнай узьнесласьці балючым дысанансам уварвалася недарэчная нота. Забарона. Сярод грамады са сьвечкамі і абразкамі ў руках зьявіліся людзі ў форме. Міліцыянеры, выконваючы загад гарадзкіх уладаў, перашкодзілі ўстанавіць Крыж. Некалькі гадзін прастаялі людзі на стромкім беразе пад лютым ветрам з надзеяю, што Крыж "Пакутнікам Беларусі" дазволяць паставіць на сьвятым месцы. Але дазволу не дачакаліся. І толькі на кароткі час – пакуль айцец Сэбасьцьян тварыў абрад асьвячэньня – устаў Крыж над Усьпенскаю гарою. Потым Крыж занесьлі ў месца, дзе ен будзе захоўвацца няпэўны час,адзначаны, па ўсім відаць, зноў жа пакутніцкім лёсам.

**Галіна Жарко**



*Асьвячэньне крыжа на месцы забойства сьв. Ізафата.*



*Па вуліцах гораду.*

Фота А.Крыштаповіча

# Батлейка, батлея – чароўная дзея



### А У СЬВЕЦЕ НАМ

*батлейны псальм*

*А у сьвеце нам навіна была.*
*Сьвяты вечар!*
*Там Прачыстая Сына радзіла,*
*Сьвяты вечар!*
*Ў небе зорачкі засьвяціліся,*
*Сьвяты вечар!*
*Прыйшлі мудрацы пакланіліся,*
*Сьвяты вечар!*
*Каб забіць Дзіця, Ірад сам пайшоў,*
*Сьвяты вечар!*
*Ды да ясьляў шлях ніяк не знайшоў,*
*Сьвяты вечар!*
*Узрасло Дзіця – Гасподзь Хрыстос–Бог,*
*Сьвяты вечар!*
*Праўды сьвет знайсьці Ён нам дапамог,*
*Сьвяты вечар!*






*Сяржук Вітушка*

### БАТЛЕЙКА

*На Беларусь яна прыблукала з далёку – са слаўнага Бэтлеему, дзе, згодна з Пісаньнем, нарадзіўся Ісус Хрыстос. Тут у батлеечную сямейку да біблейскіх персанажаў – Язэпа, Дзевы Марыі зь Немаўляткам, трох каралёў, цара Ірада падсяліліся яшчэ тубыльцы – дасьціпны мужык Мацейка, хітры жыд Лейба, гарэзьлівая і бадлівая каза Бадлейка.*

*Зараз батлейка – як родная бабулька. Да яе хочацца прытуліцца і паслухаць казачку–байку. Паслухаць бабулю–Батлейку прыходзяць і дзед Баўтрамей, і ўнукі Андрэйка, Лілейка, Наталейка ды Базылька.*



*Батлейка надзвычай зьмястоўная і багатая.*

*Батлеечны будан і лялькі мадэлююць будову Сусьвету.*

*Батлейка, батлея – заўсёды чароўная дзея. У батлейцы адбываецца таямніца нараджэньня – з тленнага паўстае вечнае.*

*У батлейцы ўсё ідзе сваім чынам – па калейцы, па чарзе – то вёсялыя баляваньні, то драматычныя баталіі.*

*Батлейка – забаўлянка, яна вялікая бутэлька з добрым вінoм – разьвесяліць каго захочаш.*

*У батлейцы кожны можа знайсьці гаючы алейчык, бальзамчык на сваё зьняверанае, збалелае сэрца.*















Мал. А.Ткачовай

# ВАКОЛ КАЛЯДНАГА СТАЛА

*Апошні вечар перад сьвятам Раства Хрыстова называюць у нас Сьвяты Вечар. У гэты час дзіўна ўплывае на чалавека навакольле, немагчымае робіцца магчымым, нежывое ажывае. Усё набывае таемны сэнс, і прырода гаворыць людзкою моваю. У гэты вечар асабліва сьцеражыся абразіць сябе ды іншага дрэннаю думкаю, хлусьнёй, няшчырасьцю. У гэты вечар усё значна і значыць.*

*Надзвычайны сэнс мае ў гэты дзень супольная вячэра. У беларускай хаце да яе сядаюць, калі пачынае сутоніцца і на небе зьяўляецца першая зорка. Кожная хата сымбалізуе ў гэты час той хлеў, вертэп, дзе на сене нарадзіўся Хрыстос. І таму да сьвяточнага стала мусіць сабрацца ўся сям'я – разам сустрэць Раство Збаўцы. Пад абрус сьцелюць сена, а на покуці пад абразамі, таксама на сене ставяць куцьцю – кашу зь ячных крупаў. Куцьця – галоўная абрадавая страва – і ўся вячэра называецца Вялікай, ці Поснай куцьцёю.*

*У каляднай кухні галоўнае мейсца займае менавіта Посная куцьця. Яна завяршае шасьцітыднёвы Піліпаўскі пост. Тут асабліва вялікая ўвага надаецца кожнай страве ў адрозьненьне ад наступных дзён Калядаў, калі на багатым стале шмат скаромнага, але сама вячэра вельмі падобная да іншых сьвятаў.*

*Перад вячэрай гаспадар чытае малітву, і ўсе дзеляцца асьвячонаю аблаткай (прасфіркай), што прынесьлі з храма, і гэтым далучаюцца да вялікага шчасьця збаўленьня, зычаць адно аднаму добрага ды даруюць усе крыўды.*

*Вячэра складаецца з дванаццаці страваў (калісьці ў заможных шляхецкіх дамах ды ў багатых манастырах вячэра складалася з дванаццаці зьменаў – па колькасці апосталаў).*

*Вячэра абавязкова посная. Усе стравы гатуюцца на алею.*

*Пачынаецца вячэра з традыцыйнага супу – гэта чырвоны боршч з вушкамі, грыбны, радзей – міндалевы. Далей ідуць рыбныя стравы: селядзец з алеем, з грыбамі і квасам, шчупак ці карп пад шэрым соусам. Аладкі – абавязковая сьвяточная страва – гатуюцца на алею і падаюцца зь цертым макам. Пасьля верашчака, сухія грушы, сьлівы, яблыкі, мёд і аўсяны кісель, і нарэшце – салодкія стравы: пернікі, ламанцы з макам.*

*Кожны ўдзельнік вячэры мусіць пакаштаваць ад усіх страваў. За сталом пьюць гарэлку, але ў гэты дзень няшмат. Пьюць па чарзе, кажучы адно аднаму пажаданьні.*

*Завяршае калядны стол куцьця зь мядоваю сытай, што ўвесь гэты час стаяла на покуці. Ядуць яе пасьля агульнае малітвы, згадваючы жывых і памёрлых. Пасьля вячэры ўсе стравы, апроч куцьці, прыбіраюць са стала.*

*Куцьцю пакідаюць з думкаю, што ўночы прыйдзе на вячэру сам Збаўца.*

*Хай прыйдзе*
*Ён і ў вашую*
*хату.*




*...А там –*
*ламанцы–*
*праснакі*
*З пшанічнай*
*добрае мукі,*
*А макаў сок*
*такі салодкі*
*Ламанцы ў ім,*
*ну, як калодкі –*
*Так добра макам*
*праняліся,*
*У рот*
*паложыш –*
*абліжыся.*
*(Я.Колас*
*"Новая*
*зямля")*

***Цеста для ламанцаў:*** *Замясіць крутое цеста са 120 г мукі, 120 г цукру і 1 цэлага яйка. Тонка раскатаць ды нарэзаць на тонкія простакутнікі (2х7 см), пекчы ў духоўцы на лісьце, змазаным алеем, да сьветла-залацістага колеру.*

***Прыгатаваньне маку:*** *шклянку маку заліць 2 шклянкамі кіпячага малака і гатаваць 15–20 хвілін на слабым агні, лепей за ўсё на падстаўцы. Мак старанна працадзіць праз сіта, тры разы прапусьціць праз мясарубку ды злучыць з 2/3 шклянкі вадкага пчалінага мёду, дадаць ванілі, 100 г разынкаў, папярэдне замочаных у роме ці каньяку ды 100 налузаных ды парубленых міндальных арэхаў. Калі рэчыва атрымаецца залішне густым, можна яго крыху разьвесьці вяршкамі. У мак дадаць чарку каньяку і астудзіць масу ў лядоўні. Перад тым, як падаваць на стол, перакласьці яе ў крыштальныя вазачкі ды густа абкласьці печывам.*

*Караліна Мацкевіч.*

## ВЕСТКІ

### ГОМЛЯ

Сфармавалася другая, пасьля менскай, грэка–каталіцкая абшчына. Яна таксама мае пацьверджаньне мітрапаліта Уладыкі Уладзіміра Стэрнюка аб прыналежнасьці да Кіева–Галіцкай мітраполіі. Савецкія органы ў рэгістрацыі адмовілі да І ліпеня.

### МАГІЛЁЎ

Праведзена першая беларуская імша. Яна адбылася 11 лістапада ў гонар грэка-каталіцкага сьвятога Ізафата Кунцэвіча. Імшу адправіў ксёндз Уладзіслаў, бо уніяцкага сьвятара пакуль няма. Сабралася каля дзьвюх соцень вернікаў. У капліцы на каталіцкіх могілках 24 сьнежня мае адбыцца наступная імша.

Суполка "Машэка"

### ПОЛАЦАК

Паўсталі дзьве грэка–каталіцкія грамады. Зарэгістраваныя яны летам, але канчаткова сфармаваліся ў верасьні пад час сьвята Францыска Скарыны. Гэтая справа зьдзейсьненая з дапамогаю айца Яна Матусэвіча. Зараз полацкія уніяты вельмі заклапочаныя лёсам старажытнай уніяцкай сьвятыні – Сафіі. Яна пабудаваная ў Х1 стагодзьдзі ў часы заснаваньня незалежнага Полацкага княства Усяславам Чарадзеем. Пасьля аднаго з пажараў адбудоваю храма займаўся сам Ізафат Кунцэвіч. У 1705 годзе расейскі цар Пётр 1 забіў у храме некалькі уніяцкіх сьвятароў, а сам храм загадаў зачыніць і зрабіць там склад вайсковае амуніцыі. Перад адыходам расейскіх войскаў у 1710 годзе Сафія была ўзарваная і ўяўляла сабою гару цэглы да 1738 году пакуль уніяцкі арцыбіскуп Фларыян Грэбніцкі не заключыў дамову з архітэктарам Глаўбіцам на пабудову новага храму. Храм паўстаў у 1751 годзе, а яго заснавальнік Фларыян Грэбніцкі быў пахаваны пры алтары.

Зараз у полацкім гарсавеце вырашаецца пытаньне, каму будзе належыць старажытная уніяцкая сьвятыня.

### ВІТАБСК

Праваслаўныя сьвятары падзякавалі сябрам клубу аматараў даўніны "Узгор'е" за іх колішнюю вялізарную працу па выратаваньні помніка архітэктуры – былога Трынітарскага кляштару. Зараз ён адбудоўваецца як Пакроўская царква.

Пакрысе ў горадзе пачынаецца уніяцкі рух. Сьведчаньне таму – падрыхтоўка ўстановкі крыжа "Пакутнікам Беларусі" у памяць забітага ў Вітабску сьвятога Ізафата. Але тут асабліва адчуваецца адсутнасьць грэка–каталіцкага сьвятара і царквы.

Міхась Паўлаў.

### ВІЛЬНЯ

17 лістапада 1990 г. у Сьвята– Троіцкай царкве, на сёньняшні дзень зачыненай і занядбанай, адбылося набажэнства, якое зарганізавала віленская суполка украінцаў грэка–католікаў. На гэтым набажэнстве прысутнічалі сябры менскае уніяцкае суполкі. Пасьля вялізнага перапынку зноў прагучала ў гэтым храме беларуская малітва– сьпеў. Узнаўленьне службы Божай ў гэтым храме пачалося 12 лістапада гэтага года на дзень сьвятога Ізафата.

Мы завязалі знаёмства са старшынёю суполкі віленскіх уніятаў Аляксандрам Лікоўскім. Па словах Аляксандра, віленскія уніяты ўжо даўно патрабуюць вяртання ўсяго базыльлянскага комплекса – храму, званіцы і кляштару і ўжо ўрад Літоўскае (Літвіскае) рэспублікі абяцае неўзабаве перадаць храм, а гарадзкія ўлады Вільні маюцца зрабіць рэстаўрацыю бажніцы.

Аляксандр адзначыў, што ўкраінцы разам з беларусамі маюць агульныя прэтэнзіі на гэты храм, бо гэта адна з найвялікшых сьвятыняў уніяцкае царквы яшчэ ад часоў Вялікага Княства Літоўскага. (Згадайма яшчэ і пра тое, што ў гэтых "базыльлянскіх мурох" месьціліся славуты беларускі музэй імя І.Луцкевіча ды Віленская беларуская гімназія).

Віленская суполка украінцаў–уніятаў зарэгістраваная, налічвае сёньня 25 асобаў. Маюць яны сьвятара – айца Уладзіміра Пракопьева, які стала жыве ў Вільні. Маюць яны вялікую падтрымку ад адзінаверцаў на Украіне. Віленскія уніяты–украінцы спадзяюцца, што да іх далучыцца і беларуская грамада, каб разам аднаўляць Сьвята–Троіцкую царкву.

### ЛЬВОЎ

6–12 верасьня 1990 г. адбыўся зьезд "Украінская моладзь – Хрысту" (УМХ). Традыцыя гэткіх зьездаў была заснаваная ў 1933 годзе пад патранатам мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага.

УМХ ня быў зьездам у звычайным разуменьні гэтага слова – з паседжаньнямі, рэзалюцыямі . . . Мы, сябры менскае суполкі "Унія", былі прыемна зьдзіўленыя грандыёзным сьвятам, якое пабачылі. На працягу цэлага тыдня адбываліся ўрачыстыя службы ў храмах. Ва ўсіх маладзёжных аўдыторыях – школах, вучэльнях, інстытутах, у шпіталях прайшлі сустрэчы з духоўнікамі (сьвятарамі) ды дзеячамі Хрысьціянскага руху Украіны і замежжа. Была зарганізаваная навуковая канфэрэнцыя "Украінская грэка–каталіцкая царква–фэномен украінскае культуры". Багатую аўдыторыю зьбіралі мастацкія выставы і канцэрты духоўнае музыкі і сьпеваў.

Кульмінацыяй фэсту УМХ сталася шэсьце моладзі са сьцягамі, са сьпевамі па вулках старадаўняга Львова. Нягледзячы на непагадзь, дождж, дзесяткі тысячаў людзей сьцякаліся на стадыён "Украіна".

Урачыста залунаталі над стадыёнам высьвячаныя сьцягі – зьезду і нацыянальны жоўта– блакітны. Прагучалі прывітальныя словы мітрапаліта Кіева–Галіцкага, Архібіскупа Львоўскага Уладзіміра, галавы абласной львоўскай Рады спадара Чарнавіла. Адбылася Архірэйская Боская Сьвятая Літургія.

На другі дзень на стадыёне зноў сабраліся людзі і прагна слухалі кожнае слова праграмы "Шукаю Хрыста". А потым адбыўся рок–канцэрт з гэткаю ж назваю – "Шукаю Хрыста" . . .

Нам, менчукам, заставалася толькі парадавацца за дужы, вольны, абсалютова сучасны рух украінскае уніяцкае моладзі.

---

У верасьні 1990 г. у Львове адбылася сустрэча сяброў рэдакцыі часопіса "Унія" з рэдакцыяй украінскага грэка–каталіцкага часопіса "Віра батьків". Нас гасьцінна прымалі рэдактар Тэдозій Старак і публіцыста Яраслаў Гнаців.

Часопіс "Віра батьків" знаёміць чытачоў з асновамі хрысьціянскага веравызнаньня, інфармуе пра навіны рэлігійнага жыцьця на Украіне. Багата мейсца ў часопісе займае гісторыя Царквы.

Пад час нашае сустрэчы адбылася плённая гутарка, зь якое вынікла дамоўленасьць пра абмен матэрыяламі ды інфармацыяй, пра распаўсюджваньне "Уніі" на Украіне і "Віры батьків" на Беларусі, пра ўдзел беларусаў у працы Львоўскага клубу грэка–каталіцкае інтэлігенцыі.

### СЛУХАЙЦЕ "РАДЫЁ ВАТЫКАН"!

новыя частоты й новыя гадзіны для беларускіх перадачаў на Ватыканскім радыё

Беларускія гутаркі з 30 верасьня 1990 году доўжацца на пяць хвілінаў больш. Адначасна, кожнае нядзелі пасьля казаньня паводле лацінскага абраду рэдакцыя ўвяла спэцыяльную рубрыку для грэка–каталікоў (уніятаў).

Слухайце беларускія перадачы Ватыканскага радыё штодня а гадз. 19.10 сярэдне–эўрапэйскага часу – адпаведна а гадз. 21.10 менскага часу – з паўтарэньнямі раніцай а гадз. 5.20 сярэдне–эўрапэйскага часу (7.20 на Беларусі) на вось гэтых частотах кароткіх хваляў: 6185 кГц і 7365 кГц у дыяпазонах 49 і 41 мэтраў.


**УНІЯ**

Часопіс хрысьціянскага сумоўя. № 2, 1990 г.

**Галоўны рэдактар:** Ірына Дубянецкая

**Рэдакцыйная калегія:** Сяржук Абламейка – заснавальнік, Ігар Бабкоў, Юрась Быкаў, Сяржук Вітушка, Галіна Дубянецкая, Галіна Жарко, Караліна Мацкевіч – тэхнічны рэдактар, Алена Ткачова

**Мастацкі рэдактар:** Генадзь Лойка

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 20 старонак машынапісу праз 2 інтэрвалы.

**ПІШЫЦЕ:** 220050, Менск–50, абанентная скрыня № 224. Наклад 10000.

Чэрвенская тып., Зак. 725, Тыр. 10000



# НАРАДЖЭНЬНЕ ТВАЁ




НА-РАДЖЭНЬНЕ ТВАЁ, ХРЫСЬЦЕ БО-ЖА НАШ, ЗА-ЗЬЗЯ-ЛА НА ЎВЕСЬ СЬВЕТ



СЬВЯТ-ЛОМ ПАЗНАНЬНЯ. ДЗЯ- КУ- Ю- ЧЫ Я- МУ ТЫ- Я, ШТО ЗОР-



КАМ СЛУ-ЖЫ-ЛІ, АД ЗОР-КІ НА-ВУ-ЧЫ-ЛІ-СЯ ПА-КЛАНЯЦ-



ЦА ТА-БЕ, СОН-ЦУ СПРА-ВЯД-ЛІ-ВАСЬ-ЦІ, І ЗРА-ЗУ-МЕ-ЛІ ШТО ТЫ




СЬВІ-ТАНЬ-НЕ З ВЫ-ШЫ-НЯЎ: ГО-СПА-ДЗЕ, СЛА-ВА ТА-БЕ.



ТЭКСТ: ТРАПАР. ТОН 4. ГРЭЦКІ НАПЕЎ (ВІЛЕНСКІ СЬВЯТА-ДУХАЎСКІ БАГАГЛАСЬНІК 1912)
ГАРМ. М. КУЛІКОВІЧ-ЩЧАГЛОЎ
(1897–1969)



